№ 13 (946) 6 красавіка 2016

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Не ўсё ў жыцці апошні раз!

Дык падпісвайся на «Нашу Ніву». **Старонка 2.**

## Гісторыя Драздоў

1923 год

Пра ўзнікненне слаўнага пасёлка Дразды і знітаваную з ім гісторыю свайго роду піша гісторык Зміцер Дрозд. **Старонка 14.**

# Герой Беларусі народзіць ад героя Нарвегіі





DARYADOMRACHEVA.COM

**Старонка 2.**

**Адзінае фота Домрачавай з Б'ёрндаленам, якое яна выклала ў адкрыты доступ.**

## «Панамскі архіў»: як сябры Пуціна атрымалі 2 мільярды даляраў

Журналістам **«злілі» дакументы** панамскіх афшораў.

Дзясяткі СМІ ва ўсім свеце пачалі публікацыю расследаванняў на аснове «Панамскага архіва». Журналісты атрымалі больш за 11 мільёнаў матэрыялаў панамскай юрыдычнай фірмы *Mossack Fonseca*. Дакументы сведчаць аб працы кампаніі ад канца 1970-х.

У сувязях з кампаніяй заўважаныя дзясяткі вядомых асобаў, уключна з сябрамі прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, дзецьмі прэзідэнта Азербайджана Ільхама Аліева, кіраўнікамі Аргенціны, каралём Саудаўскай Аравіі, жонкай прэм'ера Ісландыі і прэзідэнтам Украіны Пятром Парашэнкам. Праўда, характар сувязі ў кожным выпадку розны.

Варта адзначыць, што заканадаўства большасці краін не забараняе грамадзянам рэгістраваць кампаніі ў афшорах.

Большасць апублікаваных гісторый звязана са спробамі сыходу ад падаткаў. У чым перавагі Панамы для рэгістрацыі бізнэсу? Мясцовыя чыноўнікі не патрабуюць бухгалтарскіх справаздач і правядзення аўдытарскіх праверак, а галоўнае, заканадаўча гарантуюць ананімнасць. Таму ў Панаме надзвычай зручна хаваць даходы.

Напрыклад, найлепшы футбаліст свету Леанэль Месі, у адносінах да якога ў Іспаніі заведзеная крымінальная справа за нясплату падаткаў, адкрыў афшор у Панаме разам з бацькам.

Зрэшты, часта існаванне афшораў не забаронена заканадаўствам, пытанні ў спецыфіцы абмежаванняў у розных краінах. Напрыклад, у Расіі чыноўнікі не маюць права валодаць замежнымі кампаніямі.

Расследаванне супольнасці журналістаў дазваляе ўбачыць схаваныя схемы функцыянавання мясцовых эліт па ўсім свеце. Праўда, беларускага следу ў афшорным расследаванні пакуль не выявілася.

**Ягор Марціновіч**

**Як віяланчэліст і дырыжор стаў захавальнікам афшорных мільярдаў Пуціна.** **Старонка 7.**

## «Быў час, быў век, была эпоха»

Развітацца з Нілам Гілевічам прыйшлі тысячы людзей. **Старонка 4.**

## Святлана Калінкіна

сышла з «Народнай волі»: «Мне рана заседжвацца на адным месцы». **Старонка 3.**

## Топ-7 самых танных аўто з салона

Цэны стартуюць ужо ад $5000. **Старонка 6.**

## На ўласным досведзе: Данія — самая шчаслівая краіна ў свеце

Піша Зміцер Панкавец. **Старонка 12.**

# Б'ёрндален і Домрачава чакаюць дзіця

Трохразовая алімпійская чэмпіёнка, Герой Беларусі Дар'я Домрачава чакае дзіця. Бацькам стане нарвежскі біятланіст, васьміразовы алімпійскі чэмпіён Оле Эйнар Б'ёрндален.

Пра цяжарнасць Домрачавай ён заявіў на адмыслова скліканай прэс-канферэнцыі.

«У мяне блізкія адносіны з Дар'яй, якія працягваюць развівацца. Мы пара і ў кастрычніку чакаем нараджэння дзіцяці», — заявіў Б'ёрндален.

Нарвежскаму біятланісту ўжо 42 гады, але ён настроены працягваць кар'еру. «У мяне ёсць велізарная матывацыя. Такая ж вялікая, як тады, калі мне было 20 гадоў», — сказаў Б'ёрндален.

Домрачавай 29 гадоў, мінулы біятлонны сезон яна прапускала праз монануклеоз. Найхутчэй, праз цяжарнасць не выступіць і ў наступным. Хоць беларуска спадзяецца аднавіць трэніроўкі ўжо праз тры месяцы пасля нараджэння дзіцяці, у студзені 2017 года.



### Сямейныя гісторыі

Оле Эйнар вырас у прыгарадзе Осла. Ягоны бацька Ханс Б'ёрндален захапляўся бегам, таму трое сыноў з дзяцінства займаліся спортам і ўрэшце знайшлі сябе ў біятлоне. Старэйшы, Даг, нават заваяваў срэбраны медаль у эстафеце на Алімпіядзе-1998. Малодшы, Ханс Антон, праўда, вялікіх дасягненняў не меў. Бацька Б'ёрндалена памёр некалькі гадоў таму, перажыўшы жонку, на восьмым дзясятку.

Пра жыццёвую гісторыю сям'і Домрачавай беларусы ведаюць нашмат лепш. Нагадаем, Дар'я нарадзілася ў Мінску ў сям'і архітэктараў. На пачатку 1990-х яе бацькі пераехалі ў расійскі горад Нягань.

Спачатку там знайшоў працу бацька, Уладзімір Домрачаў. А пасля, калі ў горадзе вызвалілася пасада галоўнага архітэктара, ён прапанаваў кандыдатуру сваёй жонкі Ларысы (яе дзявочае прозвішча — Мініна). Разам з ёй у расійскія халады перабраліся дзеці — Мікіта і Дар'я.

Домрачавы жылі ў Сібіры да сярэдзіны 2000-х, а пасля маці з дзецьмі вярнулася ў Беларусь. Бацька застаўся ў Нягані і неўзабаве памёр.

Ларыса Мініна пабралася другім шлюбам з вядомым архітэктарам Барысам Школьнікавым. Гэта ён будуе хай-тэкавыя слупкі па ўсім Мінску — напрыклад, высачэзную «Роял Плазу» на праспекце Пераможцаў.

Мікіта, брат біятланісткі, працуе архітэктарам у студыі айчыма.



**У першым шлюбе Б'ёрндален пражыў шэсць гадоў з італьянскай біятланісткай Наталі Сантэр.**

### Першы шлюб Б'ёрндалена

Б'ёрндален і Домрачава асабіста пазнаёміліся падчас Алімпіяды-2010 у Ванкуверы. «Оле Эйнар тады падышоў павіншаваць мяне з бронзай. Гэта адразу пасля таго, як сам заняў другое месца ў індывідуальнай гонцы. Я была літаральна шакаваная. Сам Б'ёрндален, вау!» — узгадвала Дар'я.

Чуткі пра раман біятланістаў упершыню з'явіліся ўлетку 2012 года. У той час Б'ёрндален яшчэ быў у шлюбе. Ягонай першай абранніцай таксама была біятланістка. Наталі Сантэр мела італьянскае і бельгійскае грамадзянства. За кар'еру яна перамагла ў трох гонках на этапах Кубка свету.

З нарвежцам яна сустракалася з 1998 года, але адносіны былі афіцыйна зарэгістраваныя толькі праз восем гадоў. Сантэр і Б'ёрндален выглядалі дасканалай парай, разам бавілі час падчас экстрэмальнага адпачынку. Дзяцей у шлюбе не было, і развод прайшоў без скандалаў. «Мы павінны прызнаць, што наша жаданне правесці доўгае сумеснае жыццё не ажыццявілася. Наперадзе нас чакае асобнае жыццё», — прагучала ў заяве нарвежца і італьянкі ў канцы 2012 года.

### Беларуска-нарвежская будучыня

Доўгі час Домрачаву і Б'ёрндалена нават не маглі сфатаграфаваць разам! Толькі пасля Алімпіяды-2014 у Сочы яны перасталі хавацца ад журналістаў — разам трэніраваліся, разам хадзілі глядзець футбол. Нарвежац прыязджаў у госці ў Мінск.

Дзе чэмпіёнская пара будзе жыць, пакуль невядома. Домрачава дабудоўвае футурыстычны маёнтак на беразе Заслаўскага вадасховішча, а таксама мае прасторныя апартаменты ў доме «Ля Траецкага», падораныя Юрыем Чыжом. А вось Б'ёрндален стала жыве ў аўстрыйскім мястэчку Аберціліях.

**Браніслаў Юрэвіч**

**Якія прызавыя ў біятлоне?**

Падчас сезона праводзіцца каля 50 гонак. Падчас кожнай узнагароджваецца дзясятка найлепшых. За перамогу даецца 13 тысяч еўра, за 10-е месца — 1000 еўра.

Дадатковыя прызавыя выдаюцца па выніках сезона. За чэмпіёнства — 28 тысяч еўра, за 10-е месца — 6000 еўра.

Апроч таго, грошы можна зарабіць за поспехі ў эстафетах — максімум па 5 тысяч еўра на чалавека за перамогу ў гонцы і 11 тысяч за выніковую перамогу за сезон.

## У Вайсковай акадэміі знялі плакаты расійскіх палкаводцаў з трыкалорам

Падчас дня адчыненых дзвярэй у галоўнай вайсковай ВНУ краіны «Еўрарадыё» звярнула ўвагу на плакаты з выявамі расійскіх і савецкіх палкаводцаў, што суправаджаліся гербам і сцягам Расійскай Федэрацыі.

Пры гэтым падчас экскурсіі па Вайсковай акадэміі самі курсанты і выкладчыкі не раз пазітыўна выказваліся аб самастойным палітычным курсе нашай краіны.

І вось, як стала вядома ад курсантаў акадэміі, плакаты пасля выхаду матэрыялу паздымалі. Сцэны стаяць голыя. Фатаграфаваць іх курсанты не сталі, бо карыстацца фотаапаратамі і смартфонамі на тэрыторыі навучальнай установы забаранілі, што лагічна для такога аб'екта.

**Еўрарадыё**

## Мядзведзеў: Беларусь адмовілася прадаць Расіі Мінскі завод колавых цягачоў

Прэм'ер РФ Дзмітрый Мядзведзеў прапануе перанесці вытворчасць шасі для расійскай вайсковай тэхнікі з Мінскага завода колавых цягачоў на КамАЗ.

Прычынай ён назваў тое, што Беларусь не захацела прадаваць гэты завод расійскаму боку.

Заява прагучала падчас візіту Мядзведзева на Матавіліхінскія заводы ў Пермі, перадае interfax.by.

Т Мядзведзеў заявіў: «З гэтым МЗКЦ вясёлая гісторыя. Яны тры гады прадавалі гэты МЗКЦ, але так мы ні пра што не дамовіліся».

Таму ён прапанаваў перанесці вытворчасць на КАМАЗ: «Калі не хочуць прадаваць — не трэба, мы на КамАЗе наладзім вытворчасць».

У жніўні 2015 года Аляксандр Лукашэнка заявіў, што дзяржава пакуль не мае намеру прадаваць Мінскі завод колавых цягачоў, але калі прапануюць 3 мільярды даляраў, то ён падумае. Паводле яго слоў, апошнія год-два яму навязваюць ідэю прыватызацыі і продажу гэтага прадпрыемства. Сам жа Лукашэнка адмоўна ставіцца да ідэі прыватызацыі: «Маё стаўленне да прыватызацыі вы ведаеце. Не мы гэта з вамі стварылі, гэта створана некалькімі пакаленнямі, па меншай меры, мы трэцяе пакаленне, якое тут працуе, і не нам з вамі вырашаць у корані гэтую праблему. Хоць, калі паўстане пытанне, давядзецца».

### Сцісла

**ЦРУ папярэдзіла пра высокую імавернасць тэрактаў у Варшаве і Берліне**

Амерыканцы атрымалі такія сігналы з разведвальных крыніц, набліжаных да арабскіх арганізацый у Заходняй Еўропе. Пагроза існуе для Сафіі, Бухарэста, Будапешта, Берліна і Варшавы. ЦРУ дапускае, што тэракты могуць адбыцца падчас Сусветных дзён моладзі з 27 па 31 ліпеня.

**Севярынца і Статкевіча будуць судзіць**

Суд Маскоўскага раёна Менска 6 красавіка разгледзіць адміністрацыйныя справы сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Паўла Севярынца і былога палітвязня Мікалая Статкевіча. Палітыкаў абвінавачваюць у правядзенні несанкцыянаванага мерапрыемства 14 сакавіка каля будынка Міністэрства па падатках і зборах у Мінску. Тады дзвесце прадпрымальнікаў перадалі ў МПЗ калектыўны зварот з патрабаваннем адмены ўказа №222.

**За правоз грошай праз мяжу цяпер могуць пасадзіць**

Калі ў падарожніка знойдуць няўлічаную «гатоўку» на суму, большую за 30 тысяч даляраў, яму пагражае не толькі штраф, як раней, але і да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пры перамяшчэнні праз беларускі ўчастак мытнай мяжы ЕАЭС наяўных або грашовых інструментаў на суму звыш 10 000 даляраў іх трэба абавязкова задэклараваць. Калі сума будзе між 10 і 30 тысячамі даляраў, прадугледжаны штраф. Да таго ж у парушальніка канфіскуюць суму, якая перавышае 10 тысяч даляраў.

**СМ; БелаПАН**

### Апытанне на nn.by

**Як па-Вашаму, на чыім баку Беларусь павінна быць у канфлікце Арменіі і Азербайджана?**

| | | |
|---|---|---|
| Азербайджана | 159 | 12% |
| Арменіі | 117 | 9% |
| Не ўмешвацца | 1091 | 80% |

Усяго прагаласавала 1367 чалавек.

### Самае чытанае на nn.by за 30 сакавіка — 6 красавіка

1 «Плявок у бок Масквы». Расійскія СМІ шалеюць ад візіту прадстаўніка Мінабароны ЗША ў Беларусь

2 Занадта кароткія шорты журналісткі сталі прычынай скандалу ў Вярхоўнай Радзе Украіны ФОТА

3 Чэмпіён «Формулы-1» не ўстаяў перад міс «Плэйбой» ФОТА

4 Тысячы людзей прыйшлі развітацца з Нілам Гілевічам

5 У Беларусі сабакам забароняць брахаць з 23:00 да 7:00

6 Здзек з Праграмы Каліноўскага: «Адкрылі кальянную-паб у Катавіцах»

7 Кім Кардаш'ян і Эмілі Ратакоўскі зрабілі сумесные сэлфі топлес ФОТАФАКТ

8 Баксёр, наркаман, рэцыдывіст стаў баптыстам: незвычайная гісторыя Руслана Мірзоева

9 У Брэсt прыбылі расейскія дэсантнікі, якія захоплівалі Крым і ваявалі на Данбасе

10 Польшча ўводзіць «зніжкі беларуса» (першакрасавіцкі жарт)

## Лукашэнка: Важна працягнуць лінію на поўную нармалізацыю адносін Беларусі з Еўрасаюзам

Пра тое, што Лукашэнка хоча цалкам нармалізаваць адносіны ЕС і Беларусі, ён заявіў у аўторак на нарадзе па пытаннях беларуска-еўрапейскіх адносін.

«Важна працягнуць лінію на поўную нармалізацыю адносін і паглыбленне супрацоўніцтва з ЕС у кантэксце нашых нацыянальных інтарэсаў»,— заявіў Аляксандр Лукашэнка, дадаўшы, што гаворка ідзе пра ўмацаванне дзяржаўнага суверэнітэту і незалежнасці, а таксама бяспекі Беларусі.

Кіраўнік краіны таксама адзначыў, што ў апошні час назіраецца пазітыўная дынаміка ў развіцці адносін паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю.

Лукашэнка падкрэсліў, што для яго рускія — «браты», таму ён не хоча выбіраць паміж Захадам ці Усходам, але хоча развіваць адносіны з усімі.

Таксама Лукашэнка канстатаваў, што ў адносінах паміж Беларуссю і ЕС існуе шэраг так званых нявырашаных праблем. «Іх, вядома, трэба вырашаць і рухацца наперад», — сказаў ён.

# Еўрапейскія эксперты: Вы баіцеся Крамля? Але расійскія вайсковыя аб'екты як былі ў Беларусі, так і засталіся

Гэта ўжо не першая спроба Лукашэнкі зблізіцца з Еўропай. Папярэдняя, праўда, захлынулася на Плошчы 2010 года.

Пры якіх умовах можа адбыцца збліжэнне Беларусі з ЕС?

«Наша Ніва» пагутарыла з двума еўрапейскімі палітолагамі, што спецыялізуюцца на адносінах Еўропы з Беларуссю.

Абодва яны лічаць, што словы Лукашэнкі — гэта толькі дэкларацыя намераў, якія наўрад ці будуць рэалізаваныя. Але калі што, маўляў, то спіс патрабаванняў ЕС да Беларусі вядомы.

Так, напрыклад, кажа Каміль Клысінскі, спецыяліст па беларускіх пытаннях польскага аналітычнага Цэнтра ўсходніх даследаванняў.

«Вядома, цяжка ўявіць, каб Лукашэнка пайшоў на нейкую дэмакратызацыю, — мяркуе Клысінскі. — Але сёння ў яго на шалях, з аднаго боку, захаванне ўстойлівасці існага рэжыму, а з іншага — развіццё краіны і сродкі з тэхналогіямі, якія ёсць на Захадзе. І ўсё залежыць ад таго, што пераважыць».

«Шмат хто з еўрапейскіх палітыкаў і экспертаў думае, што Лукашэнка шукае збліжэння з Захадам, хутчэй, праз расійскую пагрозу. Далібог, трэба быць сляпым, каб не бачыць расійскай палітыкі ў рэгіёне, бачаць гэта і беларускія ўлады. Але трэба разумець, што недастаткова проста прыйсці і сказаць: «Хлопцы, нам пагражае Расія, давайце сябраваць», для Еўропы гэтага мала. Трэба прытрымлівацца еўрапейскіх каштоўнасцяў ва ўнутранай і замежнай палітыцы. Ніхто не чакае, што дэмакратызацыя ў Беларусі адбудзецца за адну ноч. І ці гатовы Лукашэнка на гэта пайсці, стане зразумела пасля парламенцкіх выбараў», — сказаў Клысінскі і дадаў, што гаворка не ідзе пра тое, што дэпутатамі мусяць стаць нейкія асобы, якія задавальняюць кагосьці з еўрапейскіх палітыкаў.

«Пытанне ў тым, каб падлік галасоў быў празрыстым, а гэта слабое месца беларускай выбарчай сістэмы. І калі хтосьці з апазіцыі здольны перамагчы і ўвайсці ў парламент, то так і павінна быць. Без гэтага зруху ў адносінах з ЕС не будзе. Таксама неўзабаве маюць адбыцца кансультацыі па правах чалавека паміж Еўрасаюзам і Беларуссю. Пасля іх шмат што стане зразумелым», — перакананы Клысінскі.

Эксперт таксама адзначыў, што самая важная прычына пошуку кантакту з ЕС — гэта патрэба ў грошах і інвестыцыях. А для гэтага, маўляў, Беларусі трэба рэфармаваць эканоміку, супраць чаго рашуча выступае кіраўнік Беларусі. Такім чынам, не зразумела, як без рэформаў можна імкнуцца атрымаць еўрапейскія грошы.

Віціс Юрконіс, літоўскі палітолаг, лічыць, што Лукашэнка проста хоча атрымаць еўрапейскія грошы, не прыкладаючы для гэтага намаганняў.

«Для сённяшняга пацяплення адносінаў з ЕС Беларусь не зрабіла нічога і проста карыстаецца сітуацыяй у рэгіёне, бо Еўропу вельмі хвалюе Украіна, цяпер вось яшчэ і Азербайджан. У такіх умовах Беларусі можна рухацца наперад у сваёй еўрадыпламатыі, не прыкладаючы дадатковых высілкаў. Да таго ж пакуль не відаць чагосьці новага: гаворка ідзе толькі пра гандаль, а ЕС гандляваў з Беларуссю нават падчас санкцый», — сказаў Юрконіс. На думку палітолага, «нармалізацыя адносінаў з ЕС» — гэта старая песня.

«Такое мы ўжо чулі раней. За 20 гадоў кіравання Лукашэнкі наступалі перыяды адлігі, якія ён называе «шматвектарнай палітыкай». Але ў чым шматвектарнасць? Яна вызначаецца толькі пошукам крэдытаў у розных кірунках. Яшчэ ён кажа, што хоча наладзіць кантакт з ЕС і для ўмацавання дзяржаўнасці. А што вы зрабілі самі? Вы баіцеся Крамля? Але расійскія ваенныя аб'екты як былі ў Беларусі, тамака ж і засталіся. Як праводзіліся сумесныя ваенныя вучэнні з рускімі, так і праводзяцца. Як вы тады збіраецеся ўмацоўваць дзяржаўнасць? Супрацьстаяць рускаму імперыялізму касметычнай беларусізацыяй? Беларусь у сваёй Канстытуцыі піша, што імкнецца да суверэнітэту, але калі вы насамрэч хочаце быць паўночнай Швейцарыяй, то здымайце пытанне вайсковага саюзу з Расіяй – такія крокі павінны бачыць еўрапейскія палітыкі, калі вы сур'ёзна кажаце пра ўмацаванне суверэнітэту», — сказаў Юрконіс і дадаў, што выразлення палітвязняў недастаткова для сапраўднага дыялогу з Еўропай. «Сістэмных крокаў зроблена не было, рэформаў няма. Калі беларуская дэлегацыя абмяркоўвае з еўрапейскай правы чалавека, то беларусы просяць «не палітызаваць». Але правы чалавека — гэта не палітызацыя. Што зроблена, каб выцягнуць грамадзянскую супольнасць з падполля, каб дэкрыміналізаваць фондавую падтрымку? Ці перасталі журналісты атрымліваць вялізарныя штрафы за фрыланс-працу? Паглядзім, што будзе. Але я не веру, што Лукашэнка здольны пайсці на дэмакратызацыю нейкіх працэсаў унутры краіны. А без гэтага дыялог з Еўропай немагчымы, і словы застануцца словамі», — падсумаваў літоўскі палітолаг.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Святлана Калінкіна: Мне рана заседжвацца на адным месцы. Кожны чалавек хоча зарабляць больш, а не менш

Журналістка Святлана Калінкіна расказала «НН», чаму прыняла рашэнне сысці з пасады шэф-рэдактара «Народнай волі».

**«Наша Ніва»: Што стала вырашальным штуршком у вашым рашэнні сысці з «Народнай волі»?**

**Святлана Калінкіна:** Цяжка сказаць, тут шмат усяго ў комплексе. Хочацца паспрабаваць штосьці новае. Мне здаецца, што я заседзелася ў «Народнай волі». Дванаццаць год — гэта немалы тэрмін. Я хачу паспець паспрабаваць сябе ў новых праектах.

**«НН»: З'явіліся меркаванні, што ваша рашэнне магло быць прадыктавана кепскай фінансавай сітуацыяй у «Народнай волі».**

**СК:** Не зусім так. У «Народнай волі» заробкі выплачваюцца, ніякіх затрымак няма. Я не магу сказаць, што такая ўжо кепская фінансавая сітуацыя. Але зразумела, што кожнаму чалавеку хочацца зарабляць больш, а не менш, чым ён меў раней. Гэта не звязана выключна з цяжкой матэрыяльнай сітуацыяй, а з тым, што ў мяне ёсць прапановы лепшага класа.

**«НН»: Якія свае галоўныя заслугі вы бачыце за перыяд працы ў «Народнай волі»?**

**СК:** Не ведаю, наколькі гэта маё дасягненне, але за апошнія дзесяць гадоў «Народная воля» стала больш вытрыманай. Нельга сказаць, што газета ва ўсіх выпадках крытыкуе ўладу. Газеце ўдалося дыстанцыявацца і назіраць за тым, што адбываецца ў Беларусі, збоку. Гэта правільна і гэта важна. У гэтым галоўная місія СМІ: быць менш заангажаваным назіральнікам.



Калі гаварыць пра свае асабістыя дасягненні, то з маіх аўтарскіх калонак у «Народнай волі» пачаўся росквіт аўтарскіх калонак у беларускай журналістыцы. Цяпер яны папулярныя. Іх выкарыстоўваюць многія выданні і сайты. Хаця я сама, шчыра кажучы, пачынала гэтую працу з-пад палкі. Маё адкрыццё, што людзі шукаюць у СМІ не толькі навіны, але і эмоцыі. І эмоцыі яны шукаюць нават, можа, больш, чым сухія факты.

**«НН»: То бок перыяд у «Народнай волі» вы разглядаеце выключна пазітыўна?**

**СК:** Гэта былі для мяне цікавыя, важныя гады. Я ўдзячна калектыву «Народнай волі», ён такі збіты. Ён не пачаўся з мяне, на мне і не скончыцца. Але мяне добра і цёпла там прынялі, са слязьмі на вачах праводзілі. Я насамрэч не развітваюся з калектывам. Мы дамовіліся, што я буду нешта пісаць, прысутнічаць на старонках газеты. Але мне яшчэ рана заседжвацца на адным месцы.

**«НН»: А на каго пакінулі свае абавязкі?**

**СК:** Там ёсць Іосіф Паўлавіч [Сярэдзіч — «НН»]. Ёсць два намеснікі галоўнага рэдактара [Марына Коктыш і Марыя Эйсмант — «НН»]. Яны іх падзеляць паміж сабой. Нікога на маё месца пакуль не ўзялі.

**«НН»: Можа, прыадкрыеце сакрэт, што за новая праца ў вас? Гэта аўтарскі праект ці далучэнне да іншага СМІ? Можа, праца ўвогуле не звязаная з журналістыкай?**

**СК:** Гэта будзе праца ў галіне СМІ. Больш канкрэтна я нічога пакуль не хачу казаць, бо кажуць, што гэта кепскі знак — раней часу расказваць пра свае планы.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



**Набалела**

## Здзек з Праграмы Каліноўскага: «Адкрылі кальянную-паб у Катавіцах»

Да 10-годдзя Праграмы Каліноўскага сайт *Svaboda.org* сабраў 10 гісторый поспехаў выпускнікоў праграмы.

Што гэта за поспехі?

9 з 11 апісаных у матэрыяле выпускнікоў засталіся жыць у Польшчы.

Сярод поспехаў фігуруе адкрыццё двума выпускнікамі кальяннай у Катавіцах (горад на поўдні Польшчы). Гэта фініш! Нават калі б яны адкрылі дымарню ў Бабруйску, мне гэта не падалося б «гісторыяй поспеху», а прычым Катавіцы да мэтаў праграмы імя героя, задачай якой было падрыхтаваць новую беларускую эліту?

У Беларусь сярод герояў матэрыялу вярнуліся толькі двое — адзін мастак і адзін журналіст-фрылансер.

Калі гэта «гісторыі поспеху», то што там ужо за «гісторыі няпоспеху» каліноўцаў можна сустрэць?

Як вядома, добрымі намерамі высцеленая дарога ў пекла.

Дык вось, дадзены артыкул для мяне толькі пацвердзіў падазрэнні, што ў сітуацыі, калі з беларускіх ВНУ перасталі выключаць, Праграма Каліноўскага перастала быць карысцю, а стала шкодай для Беларусі. Яна прыводзіць да пераезду самай таленавітай моладзі, *creme de la creme*, з Беларусі ў Польшчу. Там яны апынаюцца раскіданымі па польскіх ВНУ і ў выніку цалкам ці часткова асіміляюцца. Самыя крэатыўныя і самыя смелыя аказваюцца страчанымі для Беларусі.

**Андрэй Дынько**

# Развітацца з Нілам Гілевічам прыйшлі тысячы людзей

Падобнае па маштабах развітанне было з Мулявіным, большае — толькі з Быкавым. Труна стаяла ў Петрапаўлаўскай царкве на Нямізе. Людзі ішлі няспыннай плынню — сярод іх былі пісьменнікі, грамадскія дзеячы, высокія дзяржаўныя чыноўнікі.

Ніл Гілевіч пражыў 84 гады. Ён быў апошнім народным паэтам Беларусі. Яго пахавалі на Кальварыйскіх могілках, побач з жонкай.

Пісьменнік Віктар Казько, выступаючы на паніхідзе, параўнаў Гілевіча з зубрам. «Успомніце, недзе 100 гадоў таму забілі апошняга зубра ў Беларусі. І што? Хай забілі, але яны не толькі вярнуліся і зноў засялілі ўсю пушчу, але цяпер мы яшчэ і дзелімся зубрамі з усёй Еўропай. Таму я веру, што, хоць гэты зубр сышоў, у нас яшчэ ўсё наперадзе, зубры вернуцца, нашае слова яшчэ прагучыць», — сказаў Казько.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Гілевіча не стала 29 сакавіка. Апошнія гады ён пакутаваў на анкалагічнае захворванне і амаль не выходзіў са сваёй кватэры ў доме над кнігарняй на Маркса. У апошні дзень яму стала горай, ён трапіў у рэанімацыю.



«Гэта Ніл стварыў Таварыства беларускай мовы, даў яму назву ў гонар Францішка Скарыны. Гэта ён дабіўся таго, што ў 91-м годзе наша краіна стала называцца Рэспублікай Беларусь. Дабіўся рэканструкцыі гэтай царквы, у якой яго адпяваюць. Што тут было раней? Архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Я ўпэўнены, што яшчэ будуць вуліцы імя Гілевіча і помнікі яму. Але найгалоўны помнік яму — гэта мова, за якую ён змагаўся ўсё жыццё, заўжды яе бараніў», — сказаў на развітанні старшыня Таварыства беларускай мовы імя Скарыны Алег Трусаў.

«Ніл Сымонавіч быў салоўкам зямлі беларускай, ён геній, дадзены нам Богам. Дык захаваймы тую спадчыну, што ён нам пакінуў», — сказаў былы міністр замежных спраў Пятро Краўчанка.

У Вярхоўным Савеце Ніл Сымонавіч узначальваў Камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, — узгадвае Лявон Баршчэўскі, сябра Апазіцыі БНФ у ВС XII склікання. — Яго паважала партыйная наменклатура, і гэта давала магчымасць рухаць беларусізацыю. Гэта яго заслуга ў тым, што ўдалося ў пачатку 90-х хутка перавесці першыя класы на беларускую мову.

У літаратуры Ніл Гілевіч правёў 70 гадоў — першыя яго вершы з'явіліся ў друку ў канцы 1940-х.

Яго паэзія — простая, спеўная, агульназразумелая, яе не трэба расшыфроўваць, кажа Вераніка Кушнярэвіч, загадчыца кафедры беларускай мовы і літаратуры Ліцэя БДУ. Ключавыя радкі Гілевіча — хрэстаматыйныя:

Мы — тройчы дзеці ў вечным крузе:
Мы — дзеці роднае сям 'і,
І — дзеці Маці-Беларусі,
І — дзеці Матухны-Зямлі.

І ўжо народныя:

Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы,
Калышыце, люляйце
свой напеў векавы,
А я лягу-прылягу край гасцінца старога
На духмяным пракосе
недаспелай травы.

«Да Ніла Гілевіча ніхто не звяртаўся да рамана ў вершах, — кажа паэт і літаратуразнаўца Віктар Жыбуль. — У 1940-я быў раман Змітрака Астапенкі, аднак гэта, хутчэй, паэма. «Родныя дзеці» — унікальны раман для беларускай літаратуры, не ведаю, ці будуць калі-небудзь яшчэ падобныя творы».

## Пяць фактаў пра Ніла Гілевіча

### Памяняў імя з Нінела на Ніла

Хлопчык у сям'і Сымона Пятровіча і Кацярыны Міхайлаўны Гілевічаў нарадзіўся 30 верасня 1931 года. Бацька-камуніст вырашыў назваць сына Нінел («Ленін» наадварот). У будучыні Гілевіч змяніць гэтае імя на гучнае «Ніл».

Гілевіч расказваў у інтэрв'ю, што ў час акупацыі ў школу практычна не хадзіў. Аднак у рукі тады час ад часу трапляў часопіс «Беларуская школа», дзе хлопец прачытаў верш Алеся Гаруна «Ты, мой брат, каго завуць беларусам, роднай мовы сваёй не цурайся». Там жа ён пачаў знаёміцца з паэмай «Новая зямля» Якуба Коласа.

Свой першы верш «Яблынька» напісаў у 1947 годзе 15-гадовым. Нейкі час па вайне працаваў вясковым паштальёнам. А пасля паступіў на вучобу: спачатку ў педагагічнае вучылішча, а пазней — у Педінстытут. Ад 1954 года быў сябрам Саюза пісьменнікаў СССР.

Брат Гілевіча таксама беларускі пісьменнік — Мікола Гіль.

### Чым ганарыўся і чаго саромеўся

«Я рабіў слушна (чым і ганаруся), калі ўсё жыццё супрацьстаяў трунарам і далакопам Беларусі, бараніў ад зняважы, здзеку і ўдушэння нашу мову, змагаўся за яе права панаваць на зямлі, дзе ёй было суджана ў глыбіні вякоў прарасці і, цярпячы то лютыя маразы, то страшныя засухі, выжыць», — казаў некалі Ніл Сымонавіч у інтэрв'ю «Нашай Ніве».

А чаго са зробленага ён саромеўся? Няёмкасць адчуваў за верш, напісаны на смерць Іосіфа Сталіна ў 1953 годзе. «Але не магу сказаць, што соромна, бо я не хлусіў, а на той час сапраўды так думаў і не ўяўляў, што можна думаць іначай», — расказваў паэт на сустрэчы з чытачамі ў Маладзечне.

### Не цураўся палітыкі

Ніл Гілевіч быў дэпутатам Вярхоўнага Савета (1985—1996). Паэта паважала партыйная наменклатура, гэта дапамагала яму ў прасоўванні Закона «Аб мовах». Гілевіч быў старшынёй камісіі, якая займалася выпрацоўкай гэтага закона. 26 студзеня 1990 Закон «Аб мовах» быў прыняты і беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай у краіне. Праўда, усяго толькі на пяць гадоў.

Гілевіч быў адным са стваральнікаў і першым старшынёй Таварыства беларускай мовы, што таксама лічыў адной з найважнейшых справаў свайго жыцця.

На выбарах 2001 года падтрымліваў Уладзіміра Ганчарыка, у 2006 — Аляксандра Казуліна. Выступаў у абарону маладафронтаўцаў, калі на іх пачаўся ціск, бараніў газеты «Народную волю» і «Нашу Ніву», калі ўзнікла ім пагроза ў 2011-м.

### Аўтар славутага «Сказа пра Лысую Гару»

У 1975-м свет пабачыла ананімная паэма «Сказ пра Лысую Гару». Падпісаная яна была «Францішак Вядзьмак-Лысагорскі». «Быў час, быў век, была эпоха...» — хто не ведае гэтых радкоў!? У «Сказе пра Лысую Гару» не было дысідэнцтва, аднак твор стаў культавым. У сатырычнай манеры невядомы аўтар апісваў побыт пісьменнікаў у дачным пасёлку літаратараў недалёка ад Лысай Гары.

У 2003 годзе Ніл Гілевіч нечакана агучыў, што гэты твор напісаў ён. А ідэі для сюжэту яму падкідваў Мікола Аўрамчык. Сам Аўрамчык пакрыўдзіўся на такія словы. Ён сцвярджае, што твор яны пісалі разам з Гілевічам. Вось так была раскрытая адна з найбольшых загадак беларускай літаратуры.

### Напісаў усімі любімыя хіты

Але найперш Ніл Гілевіч — гэта цудоўны паэт. Хто не ведае «Вы шуміце, бярозы» ці «І усё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!»?

За векам век плыве-цячэ,
А мы ідзем, ідзем… І што ж?
О, як далёка нам яшчэ
Да Беларусі!
Ужо няўсцерп нам крыж пакут,
І мы крычым, крычым, але —
Не дакрычаліся пакуль
Да Беларусі.
А можа быць, яна — міраж,
І усе мы трызнім? Бо чаму ж
Не далятае голас наш
Да Беларусі?
Відаць, прапляцца знак ляжыць
На нас ад роду, і таму
Так цяжка шлях нам церабіць
Да Беларусі.
Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі!..

**Зміцер Панкавец**

Унікальнае валоданне словам, эрудыцыя, тонкае адчуванне стылю дазваляе Гілевічу ствараць такія разнапланавыя рэчы: ад вершаванага рамана да народных песняў і магутнай, знішчальнай публіцыстыкі. Як не згадаць класічнае:

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі, наеўшыся ў адвал,
Сёй-той прыкінуў, што «панчоха» —
Зусім не кепскі ідэал.
…Калі ў кампаніі парою
Не зразумець было, хоць плач —
Хто лезе чокацца з табою:
Ці лепшы сябар, ці стукач.

Спявак Анатоль Ярмоленка, у выкананні якога песня «Вы шуміце, бярозы» стала суперхітом, галоўнымі радкамі Гілевіча называў «І усё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі».

Вершы позніх гадоў былі ў паэта гаркава-іранічныя. Так, адгукнуўся патрыярх беларускай паэзіі і на маўклівыя акцыі пратэсту, дакладна схапіўшы іх настрой:

О, народ беларускі!
Ты так красамоўна маўчыш,
Што маўчанне тваё
Ім страшней
За бунтоўныя крыкі.
Не, не доўга ўжо несці табе
Свой пакутніцкі крыж.
Ты — не раб.
Ты — вялікі.
Ва ўсім.
І ў маўчанні вялікі.

**Арцём Гарбацэвіч**



На развітанні з Нілам Гілевічам беларускія мелодыі іграў цымбаліст.

**Малавядомы факт:**
у 1991 Ніл Гілевіч катэгарычна асуджаў рашэнне Сяргея Дубаўца адрадзіць «Нашу Ніву». Гілевіч лічыў, што газета павінна застацца з'явай гісторыі. Ён памыліўся: «Наша Ніва» адыграла вялізнае значэнне ў жыцці Беларусі і на сёння стала самым папулярным інтэрнэт-парталам на беларускай мове.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Ніл Гілевіч**

нар. 30 верасня 1931 у вёсцы Слабада Лагойскага раёна. Скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча (1951), філфак БДУ (1956). Кандыдат філалагічных навук, прафесар. У 1958—1963 працаваў літкансультантам газеты «Звязда». З 1960 года працаваў на кафедры беларускай літаратуры БДУ. У 1980—1989 — першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. З 1989 — старшыня Таварыства беларускай мовы. З чэрвеня 1990 — старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Дэпутат ВС БССР (1985—1996). Сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Выдаў зборнікі паэзіі «Песня ў дарогу» (1957), «Прадвесне ідзе па зямлі» (1959), «Неспакой» (1961), «Бальшак» (1965), «Перазовы» (1967), «Лісце трыпутніку» (1968), «А дзе ж тая крынічанька» (1972), «Запаветнае» (1975), «Актавы» (1976), «Святлынь» (1984), раман у вершах «Родныя дзеці» (1985), «Як дрэва карэннем» (1986), «Повязь» (1987), «Жыта, сосны й валуны» (1990), «Талісман» (1994), «На высокім алтары» (1994), «Вечны матыў» (1994), «…І плямы на табе няма» (2003), «На флейце самоты» (2004).



Развітацца прыйшоў і былы старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і калега Ніла Гілевіча па Вярхоўным Савеце 12-га склікання Леанід Козік.

SVABODA.ORG



Перад тым, як вынесці труну з целам народнага паэта, яе накрылі бел-чырвона-белым сцягам.

TUT.BY



Вялікі букет ружаў прынесла міністр інфармацыі Лілія Ананіч. З кветкамі на развітанне прыйшоў таксама міністр культуры Барыс Святлоў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Станіслаў Шушкевіч – у палітыцы яны дзейнічалі ў адзін час з Гілевічам.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні родным Гілевіча, але на пахаванне не прыйшоў**

«Творчасць Ніла Гілевіча блізкая чытачам розных пакаленняў і па праве займае асаблівае месца ў айчыннай літаратуры. У яго паэзіі знайшлі адлюстраванне высокія маральныя ідэалы, любоў да Радзімы, павага да народа», — адзначыў кіраўнік дзяржавы. Лукашэнка выказаў упэўненасць, што памяць пра Ніла Гілевіча як пра аднаго з яркіх майстроў слова захаваецца ў сэрцах прыхільнікаў беларускай літаратуры. Але на пахаванне не прыйшоў.

# Топ-7 самых танных аўто з салона

Цэны стартуюць ужо **ад $5000**.

Беларускі аўтарынак, як і рынак нерухомасці, застаецца ў глыбокім крызісе. Купецкая здольнасць у насельніцтва рэзка пайшла ўніз, таму і продажы паменшалі.

Падзеі мінулых гадоў, калі беларусы масава скуплялі новыя аўто ў расійскіх салонах, абвалілі цэны і ў Беларусі. Дылеры былі вымушаныя зніжаць сваю надбаўку, каб прывабіць патэнцыйных куццоў.

Але для спажыўца тэндэнцыі на аўтарынку толькі ў радасць. Новыя машыны ў салонах за $5—7 тысяч — гэта рэальнасць. «Наша Ніва» адабрала 7 самых танных прапаноў.

### 1. ЗАЗ Chance — $4950

Самае таннае аўто ад запарожскіх вытворцаў — гэта перапрацаваны карэйскі «Шэўрале Ланас». Рухавік аб'ёмам 1,3 л і магутнасцю 86 к.с. наўрад ці дазволіць паўдзельнічаць у гонках, але для паездак на лецішча гэтага будзе дастаткова. У камплекце ідуць кандыцыянер і пярэднія шклопад'ёмнікі. А вось падушкі бяспекі няма нават для кіроўцы.



Найтанней каштуе седан, а за хэтчбек давядзецца даплаціць $250.

### 2. Дэу Маціз — $6100

Карэйскі «Маціз» стаў сімвалам даступнага аўто. Доўгі час машына была сярод лідараў па продажах у Беларусі.

У мінімальнай камплектацыі няма нават гідраўзмацняльніка стырна і магнітолы. Галоўная перавага ўзбекскага хетчбэка з рухавіком 0,8 л — цана.



### 3. Джылі LC-Cross — $6130



Два гады таму за беларуска-кітайскую навінку прасілі каля $10 тысяч. Цяпер, пасля чарговых дэвальвацый, прапанова стала нашмат больш выгаднай.

Хэтчбек з рухавіком 1,3 л мае ў камплекце асноўны набор «зручнасцяў»: кандыцыянер, дзве падушкі бяспекі, чатыры электрашклопад'ёмнікі і нават сігналізацыю.

### 4. Лада Гранта — $6230

Расійскі вытворца пакуль не ўвязваецца ў барацьбу цэнаў, арыентуючыся перадусім на ўнутраны рынак, дзе захоўвае ўпэўненае лідарства.

Бюджэтная «Гранта» — чатырохдзверны седан з рухавіком 1,5 л.

Каб зрабіць аўто больш камфортным — дадаць кандыцыянер, аўдыёсістэму, а таксама падагрэў шкла і крэслаў — давядзецца даплаціць каля $800.

### 5. Лада 4х4 — $6310

«За сваю гісторыю гэтая мадэль даказала, што прынцыпы, закладзеныя 30 гадоў таму, па-ранейшаму актуальныя: унікальная праходнасць, надзейнасць і прастата абслугоўвання».

Былая «Ніва» славіцца поўным прывадам і нізкімі патрабаваннямі да дарожнай інфрастуктуры.

### 6. Рэно Сандэра — $6580



На беларускім рынку прадаюцца аўтамабілі французскага брэнда, сабраныя ў Расіі. Указаная цана акцыйная для «Сандэра» з рухавіком 1,2 л. Без акцыі «Сандэра» каштуе каля $7200—7300, як і іншая папулярная мадэль, «Рэно Логан». Абодва аўтамабілі ў дзясятцы лідараў па продажах у Беларусі за мінулы год.

### 7. Ліфан Смайл — $6630

Некалькі гадоў таму кітайскія мадэлі істотна вылучаліся сярод канкурэнтаў нізкай цаной. Цяпер перавага не такая відавочная.

Самая танная мадэль «Ліфана» (з рухавіком 1,3 л) мае шмат супольнага з моднымі «Міні Куперамі» ад канцэрна BMW. Калі даплаціць $1000, у камплекце з'явяцца цэнтральны замок, кандыцыянер, парктронік.



Лада 4х4.



Лада Гранта.



**Ягор Марціновіч**

# Вакансіі сакавіка: хто патрабуецца і на якія заробкі

На якія грошы могуць сёння разлічваць сушукальнікі?

### Сталіца: айцішнікі, дырэктары, менеджары

Наперадзе па заробках, як звычайна, айцішнікі. Прычым, у адрозненне ад іншых вакансій, тут заробак пазначаюць менавіта ў валюце, бо часцей за ўсё ён прывязаны да даляра і ваганні беларускага рубля на яго не ўплываюць. «Крэатыўны і матываваны прадукт-менеджар» можа разлічваць на зарплату ад двух да пяці тысяч даляраў. Супрацоўніка шукае кампанія, якая займаецца распрацоўкай мабільных дадаткаў.

Ад 1,5 да 4 тысяч даляраў прапануюць распрацоўшчыкам праграмнага забеспячэння. У кампанію, якая распрацоўвае мабільныя гульні і дадаткі, спецыяліста па прыцягненні карыстальнікаў шукаюць на заробак ад 1,2 да 3,5 тысяч даляраў. Акрамя грошай, працадаўцы абяцаюць супрацоўніку курсы англійскай мовы і тэхніку ад «Эпл».

Увогуле, вакансій праграміста ці распрацоўшчыка хапае. Заробак абяцаюць вельмі добры, як правіла — да 3—3,5 тысяч даляраў. Пры гэтым ніжняя планка розная: хтосьці прапануе ад 1 тысячы, хтосьці — ад 2,5.

Калі вам бліжэйшыя не бяздушныя камп'ютары, а жывыя людзі, то можна паспрабаваць сябе на пасадзе менеджара. Напрыклад, у кампанію, якая займаецца продажам кармоў, патрабуецца «менеджар, які ў перспектыве стане кіраўніком». Прапануюць да 25 мільёнаў рублёў. Кандыдату трэба адпавядаць наступным крытэрам: «Ідэальны перамоўшчык. Валодае дарам перакананя. Усё ведае, умее, нават калі не ўмее, знойдзе таго, хто ўмее. НЕ скуголіць, НЕ плача. Нізкі маральны парог. Аналітычны склад розуму. Слоў «не хачу», «не буду», «не ведаю», «мне лянота», «заўтра» НЕ ВЕДАЕ. Адказны. Камунікабельны. Кемлівы».

Што такое «нізкі маральны парог», не ўдакладняецца.

Вакансій менеджараў па продажах вельмі многа. Але, як правіла, зарплата ў іх не фіксаваная і залежыць ад зароблената.

Неблагія заробкі і ў кіраўнікоў прадпрыемстваў. Напрыклад, кітайская лагістычная кампанія шукае сабе гендырэктара. Калі чалавек ведае кітайскую і англійскую і мае досвед кіраўніцтва кітайскай арганізацыяй або прадстаўніцтвам ў Беларусі — можа разлічваць на 60 мільёнаў.

Дырэктару, які мае досвед працы ў сферы кансалтынгу па тэхналогіях ідэнтыфікацыі і догляду за жывёламі не менш за 15 гадоў, свабодна валодае англійскай, польскай і нямецкай прапануюць 46 мільёнаў. Кіраўнік прадпрыемства, якое займаецца закупам і пераапрацоўкай грыбоў і ягад, можа разлічваць на 21 мільён рублёў.

Добрыя заробкі — у прыватных медыцынскіх установах. Дарэчы, шмат дзе патрабуюцца стаматолагі. Загадчыку стаматалагічнага аддзялення прапануюць ад 15 да 30 мільёнаў. «Звычайнаму» стаматолагу — 20 мільёнаў. Для параўнання, стаматолагу дзяржаўнай паліклінікі абяцаюць усяго толькі ад 6 да 9 мільёнаў.

На неблагія грошы можа разлічваць рознарабочы-будаўнік, які павінен быць і столярам, і цеслем, і страхаром... Праўда, зарабіць такі спецыяліст шырокага профілю можа нармальна — яму прапануюць 20 мільёнаў рублёў плюс, калі працаваць будзе вахтавым метадам, даюць жытло. Бетоншчык можа разлічваць на 10 мільёнаў. А супрацоўнік, чыя пасада пазначана проста як «будаўнік», звычайна можа зарабіць ад 5 да 10 мільёнаў рублёў.

Невысокія заробкі ў настаўнікаў. Напрыклад, у звычайнай школе настаўнікам хіміі і настаўнікам пачатковых класаў прапануюць ад 4 мільёнаў. Для параўнання: прыёмшчык у сетку пракату ровараў можа атрымаць 4,5 мільёна, без усякай адукацыі. Яшчэ і бясплатна карыстацца ровaрам.

### У рэгіёнах: дэфектолаг зарабляе як прыбіральшчыца

У абласцях прапануюць зусім іншыя грошы. Напрыклад, зарплата доктара нярэдка ўдвая меншая, чым у Мінску, недзе ўвогуле даходзіць да абсурду. Так, напрыклад, ёсць вакансія доктара акушэра-гінеколага ў гомельскай паліклініцы. Зарплата — 2,3 мільёна. Столькі ж абяцаюць настаўнікам-дэфектолагам у раённых гарадах. Для параўнання: ад 2—2,5 мільёнаў рублёў у Віцебску і Гомелі прапануюць таксама качагарам ці прыбіральшчыцам (а ў мінскіх клінінгавых кампаніях прыбіральшчыцам прапануюць увогуле ад 4,2 мільёна).

У рэгіёнах вакансій дырэктароў ужо не так шмат, дый зарплаты меншыя. Тут працсей уладкавацца вадзіцелем-міжнароднікам (ад 20 да 40 мільёнаў) ці зноў жа праграмістам (звычайна прапануюць да 2 тысяч даляраў ці еўра). Як і ў Мінску, шмат хто шукае менеджараў па продажах.

У Гродне яшчэ можна ўладкавацца пілотам для правядзення авіяцыйна-хімічных работ у сельскай гаспадарцы. Заробак так сабе — ад 3,6 да 5,7 мільёнаў.

### Акцёры, акрабаты, клоўны

Няпроста зарабіць на жыццё і творчым людзям. Вакансій для акцёраў ці артыстаў хапае, вось толькі зарплата зусім не вялікая. Артыст драмы ў Гомелі можа разлічваць на 2,5 мільёна (што цікава, у Мазыры — на 3,2), артыст балета ў Гродне — на 2,8 мільёна, клоўн ці акрабат у Мінску — на 2,6 мільёна.

Калі вы вырашылі стаць спеваком у хоры, то таксама на вялікія грошы не разлічвайце. Белтэлерадыёкампанія шукае сабе артыста хору на зарплату 2,5 мільёна. У Гомелі і ў Гродне можна ўладкавацца на пасаду кіраўніка хору ветэранаў. Заробак — 2,3 мільёна рублёў.

**Улад Швядовіч**

# Як віяланчэліст і дырыжор стаў захавальнікам афшорных мільярдаў Пуціна

Сяргей Ралдугін (на фота — у цэнтры) — сябар юнацтва прэзідэнта Расіі.



Сяргей Ралдугін добра вядомы аматарам расійскага мастацтва. Віяланчэліст, дырыжор Марыінскага тэатра, рэктар Пецярбургскай філармоніі... А яшчэ сябар юнацтва Уладзіміра Пуціна.

Аналіз дакументаў панамскіх афшораў сведчыць, што прызнаны майстар сцэны — уласнік кампаній, якія кіравалі мільярдамі даляраў і атрымлівалі на свае рахункі «ахвяраванні» ад найбагацейшых бізнэсоўцаў Расіі.

Брат Ралдугіна вучыўся разам з Пуціным. Знаёмства музыканта з будучым кіраўніком Расіі адбылося ў 1977 годзе. «Ён мне проста як брат. Раней, калі мне не было куды дзецца, я ішоў да яго і ў яго спаў і еў», — распавядаў Ралдугін у кнізе-біяграфіі Пуціна «Ад першай асобы».

Віяланчэліст быў шчыльна звязаны з сям'ёй спецслужбіста, у прыватнасці, стаў хросным бацькам першай дачкі Пуціных.

Калі пра афшорныя кампаніі спыталі ў самога Ралдугіна, той даў вельмі цьмяны адказ: «Хлопцы, я, шчыра кажучы, цяпер ніякія каментары не магу даваць. Я павінен паглядзець і зразумець, што можна казаць, што — нельга. Я проста баюся даваць інтэрв'ю. Калі я адным немцам адмовіўся даваць інтэрв'ю, дык яны напісалі, што Пуцін настолькі запалохаў сваіх знаёмых і сяброў, што яны баяцца казаць. Вось у такім выглядзе мяне выстаўляюць. Я разумею, што тут вельмі важныя рэчы. Займаешся бізнэсам ці не займаешся? Адкуль грошы? Чые? Гэта я ўсё ведаю. Гэта далікатныя рэчы».

### Як зараблялі?

Ралдугін звязаны з чатырма афшорнымі кампаніямі. Яны былі зарэгістраваныя ў 2006—2009 гадах і праіснавалі да 2014—2015 гадоў.

Журналісты расійскай «Новай газеты» сфармулявалі тры асноўныя крыніцы атрымання грошай кампаніямі Ралдугіна. Гэта падазроныя ўгоды з акцыямі, «ахвяраванні» ад расійскіх мільярдэраў, а таксама крэдыты ад кіпрскага банка, падкантрольнага расійскаму «Внешторгбанку».

**Прыклад №1.** Кампанія Сяргея Ралдугіна заключае дамову на куплю акцый «Роснафты», і адразу ж пагадненне скасоўваецца.

За зрыў дамовы фірма атрымлівае $750 тысяч. Іншы выпадак: акцыі расійскай кампаніі набывае за адну цану, а на наступны дзень прадае таму ж прадаўцу значна даражэй. Выгада — $400—500 тысяч. Угоды вяліся так, быццам кампанія ведала, як павядзе сябе рынак.

**Прыклад № 2.** Кампанія Ралдугіна атрымлівае $6 мільёнаў пад 2% гадавых, а праз пару месяцаў доўг скасоўваюць... за $1. Фірма, якая выдае пазыку, звязаная з уласнікам «Северсталі» Аляксеем Мардашовым. Падобная сітуацыя: фірма Ралдугіна за $1 атрымлівае правы патрабаваць доўг у 4 мільярды расійскіх рублёў (каля $130 мільёнаў), а атрымлівае яго ў выніку з дзяржаўнага «Растэлекама».

**Прыклад № 3.** Кіпрскі банк, падкантрольны расійскаму «Внешторгбанку», адкрывае кампаніі Ралдугіна крэдытную лінію на $650 мільёнаў. Пры гэтым пагадненні складзеныя так, што нават юрысты панамскай фірмы *Mossack Fonseca* (чые дакументы сталі базай для расследавання), якія спецыялізуюцца на ценявых грашовых аперацыях, сумняюцца, што грошы калі-небудзь будуць вернутыя.

### На што трацілі?

Частка сродкаў, якія акумуляваліся ў афшорах, затым інвеставалася ў Расію. Гэтыя ўкладанні можна ўмоўна падзяліць на дзве групы — «для адпачынку» і для куплі стратэгічных актываў.

У 2011 годзе афшор, звязаны з Ралдугіным, выдаў расійскай кампаніі каля $7 мільёнаў у расійскіх рублях. Умовы былі надзвычай выгадныя: на 10 гадоў пад 1%. Неўзабаве кампанія пабудавала гарнальжны курорт «Ігара», у якім адбылося вяселле дачкі Пуціна.

Тады ж іншы афшор выдаў каля $1,5 мільёна расійскай кампаніі, якая валодае яхт-клубам на беразе Ладажскага возера.

Нарэшце, каля $2 мільёнаў на льготных умовах атрымала расійская кампанія, якой належыць элітны гатэль у Карэліі.

Апроч таго, афшорныя кампаніі, звязаныя з Сяргеем Ралдугіным, кантралявалі долі ў найбуйнейшых прадпрыемствах Расіі ў самых розных сферах эканомікі — ад вытворчасці грузавікоў да продажу ТБ-рэкламы.

### Князь Мышкін

У Крамлі адмовіліся адказваць на пытанні, звязаныя з гэтым расследаваннем. Прэс-сакратар прэзідэнта Дзмітрый Пяскоў склікаў адмысловы брыфінг, дзе папярэдзіў аб падрыхтоўцы, на яго думку, «атакі на прэзідэнта».

Чалавек, які ведае Ралдугіна, пацвердзіў журналістам асаблівую ролю музыканта: «Для вырашэння аператыўных, а часам непублічных задач Уладзімір Пуцін абапіраўся на кола бізнэсменаў, аснову якога складалі сябры па піцерскім перыядзе жыцця. Але многія страцілі яго давер, скажам так, праз сваю пражэрлівасць. Прэзідэнту быў неабходны чалавек, якому можна давяраць без сумненняў, каб праз яго «долі» сачыць за рэальным становішчам спраў. Акрамя таго, Ралдугін ніколі нічога не ўзяў, яго не вабіць раскошнае жыццё. У нашым коле яго называюць Князем Мышкіным».

**Ягор Марціновіч, паводле «Новай газеты» і «Ведомостей»**

**Расейцы ў «панамскім архіве»**

Сярод уласнікаў афшораў засвяціліся многія прадстаўнікі расійскай эліты — дэпутаты, губернатары, міністры, а таксама іх сваякі.

**Жонка прэс-сакратара Пуціна**

У 2014 годзе Тацццяна Наўка зарэгістравала на Брытанскіх Віргінскіх астравах кампанію для кіравання актывамі на суму больш за мільён даляраў. У лістападзе 2015 года афшор быў закрыты.

Наўка заявіла, што нічога не ведае пра афшорную кампанію. Прэс-сакратар Пуціна Дзмітрый Пяскоў запэўніў, што ў яго жонкі ніколі не было афшорнай кампаніі.

**Былы міністр інфармацыі**

Міхаіл Лесін доўгі час быў дарадцам Пуціна, а да таго міністрам па справах друку, тэлерадыёвяшчання і сродкаў масавых камунікацый. Ён валодаў афшорам, якому перайшлі актывы аднаго з афшораў Сяргея Ралдугіна. Кампанія былога чыноўніка за $1 атрымала права патрабаваць доўг памерам $200 мільёнаў.

Цела Лесіна было знойдзена ў канцы 2015 года ў Вашынгтоне.

**Пляменнік старшыні Рады бяспекі**

Аляксей Патрушаў валодаў доляй у афшоры, праз які кантраляваў долю ў Першым курскім лікёра-гарэлачным заводзе. Яго дзядзька Мікалай Патрушаў раней быў дырэктарам ФСБ, а цяпер узначальвае Раду бяспекі Расіі.

# Юрысты Парашэнкі патлумачылі, навошта яму афшоры

Законаў Украіны прэзідэнт не парушыў, але шкоду сваёй рэпутацыі нанёс.

Стварэнне афшораў было этапам падрыхтоўкі да продажу кампаніі «Рашэн» або перадачы яе ў «даверную ўласнасць». Юрыдычная кампанія «Авелум», якую прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка наймаў для гэтых мэтаў, сцвярджае, што стварэнне афшораў было неабходным.

«Стварэнне кампаній у замежнай юрысдыкцыі было адзіным магчымым шляхам для перадачы актываў у кіраванне аўтарытэтнай міжнароднай траставай структуры», — паведамілі юрысты.

Яны дадалі, што «кампаніі ў замежных юрысдыкцыях неабходныя і выкарыстоўваюцца менавіта для перадачы іх у blind trust (даверную ўласнасць)».

У «Авелуме» ўказваюць на тое, што банкаўскія рахункі гэтымі кампаніямі не адкрываліся, і яны не здзяйснялі ніякіх фінансавых аперацый.

«Такім чынам, любыя сцвярджэнні аб ухіленні ад выплаты падаткаў з'яўляюцца беспадстаўнымі», — даводзяць яны.

Яны запэўнілі, што пасля перадачы актыву ў даверную ўласнасць атрымальнікам выплат будзе не афшорная, а ўкраінская юрыдычная асоба.

«Таму ўсе падаткі будуць плаціцца ва Украіне», — запэўнілі юрысты. Яны дадалі, што стварэнне гэтых афшораў не ўплывае на падаткаабкладанне «Рашэна» ва Украіне, які працягвае выплачваць падаткі згодна з украінскім заканадаўствам.

Украінскія журналісты прызнаюць, што фармальна стварэннем такіх афшораў Парашэнка не парушыў заканадаўства, але маральную шкоду нанёс. Асабліва крытыкуецца той факт, што прэзідэнт Украіны гэтым займаўся ў дні разгару баёў на Данбасе.

# «Плявок у бок Масквы»

Рэзка негатыўную рэакцыю ў расійскіх СМІ выклікаў візіт у Беларусь намесніка памочніка міністра абароны ЗША Майкла Карпентэра.

Спадар Карпентэр меў у Мінску сустрэчы з кіраўніком краіны Аляксандрам Лукашэнкам, міністрам абароны Андрэем Раўковым, міністрам замежных справаў Уладзімірам Макеем. Прадстаўнік Пентагона высока ацаніў нейтральную пазіцыю, якую Беларусь заняла ў ваенным канфлікце паміж Расіяй і Украінай.

У сваю чаргу Аляксандр Лукашэнка лічыць, што без умяшальніцтва ЗША вырашыць сітуацыю на Данбасе будзе проста немагчыма. Таксама прэзідэнт выказаў пажаданне, што паміж Беларуссю і ЗША можа пачацца новы этап у адносінах.

Вострa адрэагавалі на прыезд Карпентэра ў тым ліку і адзін з найбуйнейшых расійскіх сайтаў *Lenta.ru*. Свой артыкул на гэтую тэму яны назвалі: «На двух крэслах».

«Прыезд у Беларусь прадстаўніка Пентагона — толькі звяно ў цэлым ланцугу палітычных гульняў вакол Беларусі і яе адносін з Расеяй. І, на жаль, беларускі бок ужо знаходзіцца на мяжы страты кантролю над сітуацыяй. Пра тое, што замежнапалітычнае ведамства рэспублікі і прэзідэнт загуляліся, сведчыць хаця б тое, што Мінск, прыязна раскрыўшы свае абдымкі Карпэнтэру, фактычна плюнуў у бок Масквы», — заяўляе *Lenta.ru*.

Асаблівы шал расійскага выдання выклікае рашэнне дазволіць працаваць у Беларусі амерыканскаму вайсковаму аташэ, а ў Штатах — беларускаму. Наступны крок, які бачыцца выданню, — сумесныя вайсковыя вучэнні беларускай арміі і НАТА.

«І як бы непраўдападобна гэта ні гучала, сцвярджаць з поўнай упэўненасцю пра тое, што ў беларускай сталіцы адмовяцца ад такой прапановы, сёння нельга», — рэзюмуе *Lenta.ru*.

Як бачым, любы рух Беларусі ў бок заходніх краін ці нават звычайныя дыпламатычныя кантакты, выклікаюць нездаровую рэакцыю ў расійскіх СМІ.

**Зміцер Панкавец**

# У Беларусі сабакам забароняць брахаць з 23:00 да 7:00

Закон «Аб абыходжанні з жывёламі», прыняцця якога ўжо шмат гадоў чакаюць беларускія зоаабаронцы, нарэшце, практычна гатовы, а яго праект апублікаваны для ўсенароднага абмеркавання на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Праўда, як заўважылі эксперты, без сюрпрызаў ад дэпутатаў пры яго стварэнні не абышлося.

Так, у прыватнасці, беларускім сабакам і катам будзе строга забаронена брахаць і мяўкаць ад 23:00 да 7:00. Прычым гэтая забарона тычыцца не толькі жывёл, якія пражываюць у шматкватэрных і блокавых дамах, але і гадаванцаў, «прапісаных» на прысядзібнай тэрыторыі ў сядзібнай забудове, або тых, якія гуляюць у дварах. Выключэнне ў законе зроблена толькі для службовых сабак, якія выконваюць свае абавязкі — ім беспакарана брахаць усё ж такі можна. Для гаспадароў «грамадзянскіх» сабак і катоў, якія парушалі цішыню ў адведзены час, прадугледжаныя сур'ёзныя грашовыя штрафы.



Акрамя таго, Закон «Аб абыходжанні з жывёламі» сур'ёзна абмяжоўвае колькасць гадаванцаў, якіх можна ўтрымліваць у кватэры. Гэта можа быць не больш за два каты, два сабакі або адзін сабака і адзін кот. У выпадку, калі па адным адрасе прапісана некалькі сем'яў, то кожная з іх мае права завесці толькі па адным хатнім гадаванцы.

У выпадку, калі зарэгістраваны сабака (для іх пастаноўка на ўлік, як і раней, з'яўляецца абавязковай) або кот знікнуць, яго ўладальнікі, згодна з апублікаваным законапраектам, будуць абавязаныя на працягу трох дзён падаць аб гэтым заяву ў арганізацыю па месцы жыхарства, якая займаецца рэгістрацыяй хатніх жывёл. Калі гэтага зроблена не будзе, згуба сабакі ці ката будзе расцэненая ўладамі як спроба ўладальнікаў незаконна ад іх пазбавіцца. За гэта таксама прадугледжана пакаранне.

Закон «Аб абыходжанні з жывёламі» стане ўжо другім змяненнем у беларускай заканадаўчай базе, зробленым дэпутатамі Нацыянальнага сходу па патрабаванням абаронцаў жывёл. Першым сталі папраўкі ў Крымінальны кодэкс, паводле якіх жорсткае абыходжанне з жывёламі стала ўтвараць ужо не адміністрацыйны, а крымінальны склад. Новы артыкул ужо працуе: у прыватнасці, нядаўна ў Брэсце па ім быў асуджаны на 1,5 года пазбаўлення волі мужчына, які жорстка забіў нажом маленькае кацяня. Такі тэрмін пакарання быў выкліканы тым, што другім артыкулам, які яму інкрымінаваўся, быў артыкул «Пагроза забойствам» у дачыненні да гаспадара жывёлы.

**By24.org**

---

**Фотафакт**




**Вясна прыйшла. Тэмпература паветра ў наступныя 10 дзён будзе дасягаць 17—22 градусаў вышэй за нуль.**

---

## Уладальнікі Карты паляка, якія пераедуць у Польшчу, будуць штомесяц атрымліваць 140 еўра пад'ёмных

Такім чынам Польшча хоча перацягваць да сябе працоўныя рукі і галовы.

Кіраўнік камісіі Сойма Польшчы па сувязях з палякамі за мяжой Міхал Дворчык 4 красавіка заявіў, што прынятыя парламентам папраўкі да закона аб Карце паляка палегчаць пераезд у Польшчу грамадзянам краін СНД і Балтыі польскай нацыянальнасці.

Паводле слоў дэпутата, якія цытуе Польскае радыё, на падставе Карты паляка грамадзяне з гэтых краін змогуць прыязджаць у Польшчу і атрымліваць польскае грамадзянства пасля года пражывання ў краіне. На працягу першых 9 месяцаў такія асобы будуць атрымліваць штомесячную дапамогу памерам 600 злотых (140 еўра).

МУС Польшчы хоча перацягнуць у Польшчу 200 тысяч палякаў з краін СНД і краін Балтыі.

Папраўкі да закона аб Карце паляка таксама прадугледжваюць, што ў надзвычайных сітуацыях, у выпадку пагрозы для жыцця, палякі, якія пражываюць за мяжой, будуць мець тыя ж правы, што і грамадзяне Польшчы. Паводле слоў дэпутата, гэта становішча дае магчымасць пры неабходнасці хутка правесці эвакуацыю асобаў польскага паходжання.

Міхал Дворчык таксама дадаў, што ў бліжэйшы час пачнуцца міжведамасныя кансультацыі, якія тычацца закона аб рэпатрыяцыі. Паводле яго слоў, на дадзены момант палажэнні закона знаходзяцца на стадыі распрацоўкі.

**СГ**

---

## Дагестанскі спартсмен апаганіў статую Буды ў Калмыкіі

Дагестанскі спартсмен Саід Асманаў, які прыехаў у сталіцу Калмыкіі Элісту для ўдзелу ў спаборніцтвах Усерасійскага турніра па вольнай барацьбе, справіў патрэбу ў храме і ўдарыў у нос статую Буды.

Відэазапіс таго, што адбылося ў храме, трапіў у інтэрнэт праз сацыяльную сетку *Periscope*. У выніку мясцовыя жыхары зладзілі з дагестанцамі разборку ў цэнтры горада.

Жыхары Элісты, убачыўшы ролік, прыехалі ў гатэль, дзе спыніўся спартсмен, выцягнулі яго на вуліцу, паставілі на калені і прымусілі публічна папрасіць прабачэння.

Інтэрнэт-доступ да скандальнага роліка цяпер спынены. У інтэрнэце затое ёсць відэазапіс таго, як спартоўца просіць прабачэння перад калмыкамі.

Пры гэтым кіраўнік Калмыкіі Аляксей Арлоў заявіў, што хулігану пагражае турэмны тэрмін. Па звестках СМІ, у дачыненні да спартсмена распачата справа па арт. 148 КК Расіі (парушэнне права на свабоду сумлення і веравызнанняў).

У гэты час Асманаў знаходзіцца ў СІЗА.

Перад народам Калмыкіі за дзікую выхадку юнака даваўся выбачацца кіраўніку ўрада Дагестана. Абдусамад Гамідаў спешна прыбыў у Калмыкію ўладжваць канфлікт. Старшыня ўрада Дагестана папрасіў прабачэння за жахлівую выхадку 22-гадовага выхадца рэспублікі.

**Паводле asiarussia.ru**

---

## Byfly закрывае больш за трыццаць архіўных тарыфаў і перавядзе абанентаў на новыя

З 1 мая 2016 года інтэрнэт-правайдар *byfly* спыніць падтрымку некалькіх дзясяткаў архіўных тарыфных планаў. Пра гэта паведамляе сайт кампаніі.

Змены закрануць абанентаў, якія выкарыстоўваюць тарыфы з улікам перадаплачанага трафіку, пагадзіннага доступу, а таксама безлімітныя тарыфы з нізкімі хуткасцямі доступу: 64/32, 256/128, 512/256, 768/384 і 1024/512.

Абанентам аператар прапануе самастойна выбраць новы тарыф. Зрабіць гэта можна анлайн у кабінеце карыстальніка або ў сэрвісным цэнтры «Белтэлекам» да 1 мая.

Аплата за змену тарыфу спаганяцца не будзе, перабоеў з доступам быць не павінна. Тыя, хто не зменіць архіўны тарыф на актуальны, з 1 мая аўтаматычна пераключацца на тарыфны план «Дамасед старт».

---

**На сэрцы**

## «Каб нашы дзеці жылі лепш за нас»



Гляджу ў акно. Па вуліцы ідзе калгасная даярка.

«Чаго ты хочаш, даярка?» — думаю я пра сябе.

А хоча яна таго ж, чаго хоча кожны нармальны беларус. Гэта беларуская мантра, якую я чую кожны дзень, якую праматўляюць за любым святочным сталом у беларускай хаце перад словам «будзьма!». Гэта самыя простыя словы, але і самыя сапраўдныя: каб нашы дзеці жылі лепей за нас. Гэта вельмі прыгожыя словы, сэнс усіх змаганняў і гараванняў. Словы такія цёплыя, што адразу званю маме.

— А я знайшоў такую самую шафу, як у дзедавай хаце стаяла, — кажу ёй.

— Анігадкі! От любіш ты збіраць рознае халусце.

— Люблю. А што?

— Нічога, збірай. Табе добра — і мне добра.

А мой дзядзька з Калінкавіч аддае сваю і жончыну пенсіі сыну, сам жа працуе начным вартаўніком па начах і есць бульбу без сала. Ён не хоча дэмакратыі — ён хоча, каб сын дабудаваў хату. Я магу расказаць дзясяткі такіх гісторый.

Каб нашы дзеці жылі лепей за нас — мусіць, гэта мантра не назаўсёды, яна дадзена нам толькі на час, пакуль мы жывём у квітнеючай Беларусі. От калі яна расквітнее цалкам, і мантра зменіцца на «для сябе». А сёння так.

Калі ў Беларусі пройдуць праўдзівыя выбары, прэзідэнтам стане той кандыдат, які возьме беларускую мантру сваім лозунгам. Абрыдла стабільнасць, а «Хай вашае жыццё будзе як у тэлевізары» — прыгожая казка. Мы казкам не верым. Даярка, якая ідзе па вуліцы, не хоча быць Сабчак. Яна хоча шчасця сваім дзецям. Беларусы — гэта не тэлегерої. Беларусы — гэта мамы і таты.

Таксама і беларускай журналістыцы варта адпавядаць унутраным патрабаванням — быць накіраванай на тое, каб нашы дзеці жылі лепей. А гэта значыць — паляпшаць жыццё ў Беларусі сёння.

Паляпшаць, а не ствараць ідэалістычную карцінку на ўзор дзяржаўных СМІ. Бо, шаноўныя журналісты-бюджэтнікі, не толькі дзеці даярак, а і вашыя, будуць жыць тут далей пасля нас. Усе дэкарацыі і іншыя дажынкі, за якімі вы хаваеце праблемы, некалі ўпадуць ім на ногі. Далучайцеся да беларускай мантры. Спрыяць дзецям — то добра.

**Андрусь Горват, Прудок, baj.by**

# Занадта кароткія шорты журналісткі сталі прычынай скандалу ў Вярхоўнай Радзе Украіны



Украінскі інтэрнэт некалькі сутак абмяркоўваў шорты журналісткі тэлеканала 1+1 Яраславы Кобы, у якіх яна прыйшла запісваць перадачу ў Вярхоўную Раду Украіны.

На шорты Кобы звярнула ўвагу памочніца дэпутата, журналістка Алена Яхно. «А што? Нармальныя такія дзелавыя шорты! — іранізуе Яхно. — У часы маёй маладосці з Рады пагналі памочніцу, якая прыйшла ў... баа. Цяпер у гэтым бардэлі можна ўсё». У прыпісцы Яхно адзначыла, што журналістка, як высветлілася, робіць не забаўляльную перадачу, а інфармацыйна-аналітычную.

«Я не збіраюся апраўдвацца за свае шорты і за свае, як вы пішаце, кароткія тоўстыя ногі. Мне падабаюцца мае шорты і мае кароткія ногі, — адказала ў фэйсбуку сама Яраслава Коба. — Хто цікавіцца, ці шукаю я «папіка» ў Вярхоўнай Радзе, адкажу: «Ну, вядома шукаю, менавіта дзеля гэтага я пяць гадоў прысвяціла журналістыцы, зай-маюся расследаваннямі ў праграме «Грошы» і не сплю начамі, каб зрабіць чарговы сюжэт. Як мінімум для таго, каб зрабіць ногі крыху лепшымі — мне патрэбен «папік». Грудзі ўжо адрамантавала. А вось ногі кароткія... яны мне спакою не даюць», — іранізуе Коба.

ЗП

Тэхналогіі

## Робат з Японіі выйшаў у фінал літаратурнага конкурсу

Навукоўцы з японскага Універсітэта будучыні стварылі штучны інтэлект, які змог дабрацца да фіналу прэстыжнага літаратурнага конкурсу, паведамляюць інфармагенцтвы са спасылкай на партал *The Japan News*.

Стваральнікі робата-пісьменніка прызналіся, што ўдзел чалавека ў напісанні літаратурнага твора быў зведзены да мінімуму. Людзі толькі задалі асноўную лінію сюжэту і гендарную прыналежнасць герояў, усё астатняе зрабіў штучны інтэлект, абапіраючыся на закладзеныя ў яго правілы выкарыстання мовы.

Такім чынам, раман «Дзень, калі камп'ютар напіша раман» быў прэзентаваны сярод іншых работ на прэміі *Nikkei Hoshi Shinichi*.

Вядома, што з 1450 літаратурных твораў 11 было напісана робатамі, аднак члены журы не ведалі, якія менавіта. Па словах аднаго з іх, вышэйзгаданая праца штучнага інтэлекту напісаная даволі добра, ёй толькі не стае больш дэталёвай прамалёўкі галоўных персанажаў.

Можна сказаць, што ўдзел у літаратурным конкурсе нароўні з людзьмі штучнага інтэлекту з'яўляецца своеасаблівым прарывам у свеце навукі. Цяпер многія навукоўцы лічаць галоўнай праблемай немагчымасць вывесці працу штучнага інтэлекту за зададзеныя чалавекам рамкі. Аднак стваральнікі робата-пісьменніка ўпэўненыя, што сваім вынаходніцтвам яны зрабілі вялікі крок у гэтым кірунку і неўзабаве штучны інтэлект зможа праяўляць творчыя прарывы.



Прыколы

## Віталь Карпанаў зладзіў голую фотасесію з гусямі

Імаверна, гэта быў адказ беларускаму ўдзельніку «Еўрабачання» Аляксандру Іванову, які нядаўна зладзіў падобную фотасесію, але з ваўкамі.

На пытанне, ці сапраўды ён зрабіў пародыю, саліста гурту «Дразды» адказаў «Нашай Ніве» такім чынам: «А што з Айванам было не так? Я не ў курсе. Я аголены і ён аголены, а што, больш аголеных няма?»

Спявак спяшаўся на канцэрт і не здолеў растлумачыць, да чаго прывязаная фотасесія, але адметна іншае. У інтэрв'ю «Анлайнеру» ён заявіў, што гурт «такім чынам вырашыў паспрыяць эканоміцы роднай краіны» і падтрымаць Айвана на «Еўрабачанні». У інтэрв'ю ж «Камсамольскай праўдзе» Карпанаў адзначыў, што Айван скраў яго ідэю, бо жывёлы, у дадзеным выпадку гусі, прысутнічалі на выступе гурту на беларускім адборы на «Еўрабачанне».

Такім чынам, версіі асноўнага матыву фотасесіі разыходзяцца і ён застаўся невядомым.

МН

Стартап

## Гарадзенец размясціў у інтэрнэце аб'яву з прапановай імітацыі пахавання

Жыхар Гродна на адным з інтэрнэт-форумаў у раздзеле «Паслугі» размясціў незвычайную аб'яву: ён прапанаваў людзям «перажыць сваю смерць і нарадзіцца нанова».

У аб'яве мужчына паведамляе, што гатовы паспрабаваць дапамагчы «ўсім, каму жыццё не міле, хто шукае выхад і не можа знайсці», з дапамогай фальсіфікацыі пахавання, прычым бясплатна. Падкрэсліваецца, што прапанова на дадзены момант носіць альтруістычны характар.

Імітацыяй пахавання ён прапануе дапамагчы чалавеку пераасэнсаваць праблемы, якія здаюцца невырашальнымі. Ініцыятыўны гарадзенец распавёў на форуме, што размясціў такое паведамленне пасля размовы з жонкай, якая ў чарговы раз выказалася пра неразуменне сэнсу жыцця. Таксама да дзеяння яго падштурхнуў уласны досвед, калі пасля хваробы яго стаўленне да простых рэчаў радыкальна змянілася.

Незвычайную «паслугу» мужчына апісвае так: «Я знайду памяшканне, куплю труну, труна будзе апускацца ў зямлю і закопвацца на нейкі час».

Ён кажа, што чытаў пра такую практыку ў інтэрнэце, ёю карыстаюцца салдаты, каб стаць мацнейшымі і больш самаўпэўненымі, і нават практыкуючыя псіхолагі. Неардынарная аб'ява не засталася незаўважанай на форуме: карыстальнікі ва ўсю выказваюцца за і супраць такой «паслугі».

Паводле БелТА

Чыыыз

## Пасажыр захопленага самалета EgyptAir зрабіў «сэлфі» з тэрарыстам




Брытанскі пасажыр зрабіў бесцырымоннае сэлфі з угоншчыкам самалёта *EgyptAir*, піша *The Telegraph*.

26-гадовы брытанец з Лідса Бенджамін Інс папрасіў сфоткаць яго побач са згоншчыкам самалёта Саіфам эль-Дзінам Мустафой і яго «поясам смяротніка» на борце самалёта *Airbus 320* на Кіпры. Фота Бенджаміна імгненна разляцелася па сацсетках і стала нагодай для гумарыстычных каментароў і мемаў.

Турызм

## У топ-10 папулярных турыстычных кірункаў беларусаў трапілі Канарскія астравы

Топ-10 напрамкаў выязнога турызму для беларусаў назваў намеснік міністра спорту і турызму Міхаіл Партной.

Запыты ў інтэрнэце паказалі, што на сёння топ-10 напрамкаў — гэта Егіпет, Балгарыя, Чарнагорыя, Грузія, Іспанія, Турцыя, Крым, Тайланд, Канарскія астравы, Грэцыя, адзначыў чыноўнік.

Ён падкрэсліў, што сёлета ў дзясятцы з'явіліся новыя гульцы: Чарнагорыя, Грузія, Канарскія выспы. Аднасна Егіпта, які займае першы радок рэйтынгу, Партной нагадаў, што беларусам рэкамендавана ўстрымацца ад паездак у гэтую краіну. «Але, мабыць, крытэрыі «цана-якасць» адыгрываюць сваю ролю», — выказаў меркаванне намеснік міністра.

Знізіліся плыні ў турэцкім кірунку. «Гэтая краіна ў нас лідзіравала ў 2014 і 2015 гадах, займала першае, потым другое месца. Цяпер апусцілася на шостае. А новыя гульцы занялі гэту нішу», — растлумачыў ён.

Паводле БелТА

Здароўе

## Медыкі: Барацьба з атлусценнем у свеце не прыносіць вынікаў

Шанцаў на тое, што глабальныя мэты па барацьбе з атлусценнем будуць дасягнутыя да 2025 года, практычна няма, гаворыцца ў даследаванні, апублікаваным у медыцынскім часопісе *Lancet*.

За апошнія 40 гадоў (з 1975 па 2014) колькасць дарослых людзей, якія пакутуюць ад залішняй вагі, вырасла з 105 да 641 мільёна чалавек, гаворыцца ў публікацыі. Доля тоўстых мужчын за гэты час патроілася, а жанчын — падвоілася.

Паводле высноў даследчыкаў, колькасць людзей у свеце, якія пакутуюць на атлусценне, перавысіла колькасць жыхароў планеты, якія маюць недахоп вагі.

Калі цяперашняя тэндэнцыя захавацца, то да 2025 года на атлусценне будуць пакутаваць 18% мужчын і 21% жанчын.

Лекары характарызуюць атлусценне як стан, пры якім індэкс масы цела чалавека (ІМЦ, суадносіны масы цела да квадрата росту) перавышае 30.

Самая вялікая колькасць тоўстых людзей — у Кітаі: у гэтай краіне на атлусценне пакутуюць 43,2 млн мужчын і 46,4 млн жанчын. Гэта азначае, што 16,3% мужчын з залішняй масай цела — жыхары Кітая, кітаянкі складаюць 12,4% жаночага насельніцтва планеты, якое пакутуе на атлусценне. На другім месцы па колькасці людзей з залішняй масай цела — ЗША.

Навукоўцы мяркуюць, што аднымі медыцынскімі сродкамі і веласіпеднымі дарожкамі на вуліцах з праблемай не справіцца. У прыватнасці, аўтары даследавання прапануюць уладам энергічней узяцца за рэгуляванне цэн на прадукты, якія правакуюць атлусценне, а наўзамен зрабіць больш даступнымі здаровыя прадукты.

Планы ўрада Вялікабрытаніі ўвесці падатак на цукар, каб зрабіць больш цяжкадаступнымі газаваныя безалкагольныя напоі, — гэта крок у правільным кірунку, сцвярджаюць складальнікі даклады. Кожнае пятае дзіця ў Брытаніі пакутуе на атлусценне. Пры гэтым дзеці з'яўляюцца асноўнымі спажыўцамі напояў з высокім утрыманнем цукру.

Праціўнікі падобных мер сцвярджаюць, што дзяржаве не варта дыктаваць людзям, што ім есці, і што ўвядзеннем новых падаткаў падобныя праблемы не вырашаюцца.

Летась СААЗ прадставіла даклад, у якім гаварылася, што да 2030 года ў Вялікабрытаніі каля 75% мужчын і больш за 60% жанчын будуць пакутаваць на атлусценне.

bbc.com

# Канфлікт у Карабаху ў пытаннях і адказах

Ад 2 красавіка ў Нагорным Карабаху зноў неспакойна.

Інфармацыйная вайна даўно адпрацаваная з абодвух бакоў, атрымаць незаангажаваную інфармацыю з паведамленняў мясцовых СМІ амаль немагчыма. Няясна, хто першы пачаў страляць, бо і Азербайджан, і Арменія адразу абвінавацілі адзін аднаго ў правакацыях.

Азербайджан прызнаў гібель 16 вайскоўцаў, Арменія — 20. Страты сярод мірнага насельніцтва невялікія, бо баі ішлі ў адселенай прыфрантавой зоне.

Прапаганда сцвярджае, што сотні добраахвотнікаў у абедзвюх краінах гатовыя ехаць на вайну. Дзесяцігоддзямі ў Арменіі і Азербайджане песціўся і падсілкоўваўся градус нянавісці адзін да аднаго. Мяжа паміж суседнімі нацыямі надзейна закрытая, кантакты могуць адбывацца толькі на нейтральнай тэрыторыі.

Нават інтэлектуалы гэтых краін не адважваюцца сказаць, што прыйшоў час адмовіцца ад тэрытарыяльных прэтэнзій дзеля таго, каб іх Радзімы маглі рухацца наперад. Такія словы былі б успрынятыя крайне негатыўна.




### Што такое Нагорны Карабах?

Слова «Карабах» мае цюркскае паходжанне. «Кара» значыць «чорны», «бах» — сад. Армяне называюць гэты рэгіён «Арцах». Так называлася правінцыя «Вялікай Арменіі», што існавала дзве тысячы гадоў таму, у часы Рымскай Імперыі.


Армянскі помнік у Нагорным Карабаху.

Карабах складаецца з Нагорнага Карабаха, дзе жылі пераважна армяне, і Дольнага Карабаха, там жылі цюркі. У XVIII стагоддзі існавала Карабахскае ханства, якое падпарадкавала армянскіх мелікаў (князёў). Пасля гэтая тэрыторыя была далучаная да Расійскай Імперыі.

### Калі пачаліся канфлікты?

Даўняя варожасць дала свае парасткі ў XX стагоддзі.

Кроў паміж армянамі і іх мусульманскімі суседзямі — туркамі, курдамі і каўказскімі татарамі, якія ў XX ст. узялі саманазву «азербайджанцы», — лілася ў 1905—1907 і 1915—1920 гадах. Гэта былі лёсавызначальныя гады для Расійскай і Асманскай Імперый.

У 1921 годзе Каўказскае бюро Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў) замацоўвае Нагорны Карабах за Азербайджанскай ССР, надаючы рэгіёну вялікую аўтаномію. Мовай справаводства рэгіёна была армянская, але звязаны рэгіён быў з Баку.

СССР жалезнай рукой падтрымліваў між армянамі і азербайджанцамі мір. Канфлікт зноў вылез на сконе Саюза. Кроў палілася ў 1988 годзе.

Азербайджан не змог абараніць Нагорны Карабах. Тысячы азербайджанцаў былі вымушаныя ўцякаць з Карабаха, армяне ўцякалі ад пагромаў з Баку. Больш за мільён чалавек страцілі дамы.

На сёння Нагорна-Карабахская Рэспубліка не прызнаная ніводнай краінай свету, нават Арменіяй. Хаця дэ-факта гэтае «ўтварэнне» знаходзіцца пад кіраўніцтвам Ерэвана. Цікавы факт: апошнія прэзідэнты Арменіі Качаран і Саргсян абодва нарадзіліся ў Сцепанакерце. Саргсян узначальваў армію Нагорнага Карабаха ў часе вайны з азербайджанцамі ў 1989—1993 гадах, а Качаран быў прэзідэнтам Карабаха.

### У чым праўда Арменіі?

Арменія заяўляе, што для яе Карабах грае важную ролю ў гісторыі народа, а да Азербайджана гэтая тэрыторыя была далучаная гвалтоўна. Армяне кажуць, што вырашэнню канфлікту замінае ксенафобская антыармянская прапаганда Азербайджана. Прэзідэнт Нагорнага Карабаха Саакян кажа, што да перамоваў трэба падыходзіць з разуменнем таго, што вяртанне да мінулага ўжо немагчымае. То бок Карабах ніколі ўжо не адыдзе назад да Азербайджана. Армяне ўпэўненыя, што ім не была б гарантаваная бяспека ў складзе Азербайджана. Калі кажуць пра магчымае самакіраванне, то армяне адказваюць: якое можа быць самакіраванне пры аўтырытарызме?

### У чым праўда Азербайджана?

Азербайджан настойвае на павазе да тэрытарыяльнай цэласнасці і непарушнасці міжнародна прызнаных межаў. Афіцыйны Баку сцвярджае, што ў Нагорным Карабаху ў будучыні магчымае мірнае суіснаванне армян і азербайджанцаў. Азербайджан лічыць, што ўсе акупаваныя тэрыторыі мусяць быць вызваленыя, а ўцекачы вярнуцца ў свае дамы.

### У чым пазіцыя Беларусі?

Беларускае МЗС выказалася адносна новага абвастрэння ў Нагорным Карабаху. «Беларусь паслядоўна выступае за мірнае вырашэнне канфлікту ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі прынцыпамі і нормамі міжнароднага права, перш за ўсё на аснове захавання і забеспячэння суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці і непарушнасці межаў дзяржаў, а таксама адпаведных рэзалюцый Савета Бяспекі ААН і рашэнняў АБСЕ», — гаворыцца ў заяве.

У Ерэване такую рэакцыю палічылі праазербайджанскай. Нават выклікалі «на дыван» пасла Беларусі ў Арменіі Ігара Назарука, дзе казалі аб недапушчальнасці такіх заяваў. Найбольш радыкальныя армянскія сайты нават заклікаюць дэпартаваць з Ерэвана паслоў Беларусі і Казахстана.

Аляксандр Лукашэнка 2 красавіка па чарзе тэлефанаваў Ільхаму Аліеву і Сержу Саргсяну.

Цяпер бакі прыйшлі да перамір'я. Азербайджану ўдалося адбіць восем узгоркаў, пры гэтым з абодвух бакоў загінулі дзясяткі людзей. Аднак ніхто не можа сказаць з упэўненасцю, калі на гэтым кавалачку зямлі зноў могуць прагучаць стрэлы.

**Зміцер Панкавец**

# Аракелян і Багіраў: беларусы армянскага і азербайджанскага паходжання пра канфлікт у Карабаху

Павел Аракелян і Націк Багіраў даўно жывуць у Беларусі. Мы выпрашылі пацікавіцца, як яны сёння разглядаюць канфлікт у Нагорным Карабаху і ці бачаць шляхі выхаду з сітуацыі.

### Павел Аракелян, джазавы музыкант, трэнер

«Мне здаецца, што цяперашні канфлікт справакаваны Расіяй. Мае сваякі і сябры ў Арменіі, як і людзі ў Азербайджане, гатовыя мабілізавацца ў любы момант. Людзі кажуць, што гэты зацяжны канфлікт прыйшоў час нейк вырашаць. У асноўнай масе яны гатовыя вырашаць сітуацыю ваеннымі метадамі. Але вайны не хоча ніхто. Ёсць разуменне: будзем рабіць тое, што трэба, але калі гэта гарачая кропка спыніць сваё існаванне, то ўсім будзе прасцей.

Армяне ставяцца да Карабаха ўжо як да асобнай тэрыторыі, бо там ідзе вялікае змяшэнне нацый — армяне, азербайджанцы. Хаця трэба ўлічваць той факт, што першапачаткова гэта ўсё ж была тэрыторыя армянская.

Карабахскі канфлікт ужо доўжыцца шмат гадоў. Я думаю, што камусьці з бакоў усё ж давядзецца ахвяраваць сваімі амбіцыямі. Думаю, што найперш гэта тычыцца азербайджанскага боку, бо трэба ўлічыць той факт, што армянскія землі былі проста аддадзеныя Азербайджану. Можа быць, я так лічу, бо я армянін.

Канечне, у мяне ёсць знаёмыя азербайджанцы. У мяне з імі цудоўныя адносіны. Паміж адэкватнымі людзьмі канфліктаў на роўным месцы быць не можа. Гэта канфлікт не людзей, а дзяржаваў. Гэтую «гарачую кропку» выгадна трымаць як прэзідэнтам абедзвюх дзяржаваў, гэтак і Расіі».





### Націк Багіраў, дзюдаіст, прызёр Алімпійскіх гульняў

«Усе баявыя дзеянні адбываюцца на тэрыторыі Азербайджана. Азербайджан не прэтэндуе ні на лапік чужой зямлі. Увесь свет, у тым ліку наша другая радзіма — Беларусь, прызнаюць, што тэрыторыя Азербайджана непадзельная. Было чатыры рэзалюцыі ААН, каб Арменія вызваліла акупаваныя тэрыторыі, але яны не слухаюць ні сусветную супольнасць, ні кагосьці іншага.

Сусветная супольнасць павінна дапамагчы вырашыць гэтую праблему азербайджанскага народа. І не так, як Мінская група АБСЕ, што 20 гадоў перакладвае паперкі з аднаго кута стала ў іншы. Тут словамі не дапаможаш, патрэбная канкрэтыка.

Мы заўсёды былі за мірнае ўрэгуляванне гэтай бяды, але, як казаў прэзідэнт Азербайджана, у нас ёсць сілы і магчымасці вярнуць нашы землі.

Праз Карабах мы маем больш за мільён уцекачоў са сваёй жа зямлі.

Ніхто з маіх знаёмых армян не скажа, што я кепска стаўлюся да іх. Не бывае кепскіх нацый, бываюць кепскія людзі. Нават прэзідэнт Азербайджана заўсёды ў сваіх выступах казаў, што армянскі народ тут не датычны. У Азербайджана ёсць прэтэнзія не да армян, а да той банды людзей, якая давяла Арменію да ручкі, да кіраўніцтва Арменіі, што штурхае свой жа народ да гібелі».

**Запісаў ЗП**

# Два браты згарэлі разам з матацыклам

*Жудаснае ДТЗ адбылося раніцай 3 красавіка ў Мінску.*

Аварыя здарылася каля 10 гадзіны раніцы ў мікрараёне Зялёны Луг, на вуліцы Лагойскі тракт. Сутыкнуліся маршрутнае таксі «Фальксваген Крафтар» і матацыкл «Хонда CBR-600». Паводле папярэдняй версіі, матацыкл ехаў з боку МКАД у напрамку горада, маршрутнае таксі паварочвала з Лагойскага тракта налева на вуліцу Гамарніка — і тут адбылося сутыкненне. Ад моцнага ўдару абодва транспартныя сродкі загарэліся.

У момант ДТЗ у салоне маршруткі было пяць чалавек: кіроўца і чацвёра пасажыраў, у тым ліку дзіця. Адна пасажырка, 65-гадовая жанчына, атрымала траўмы і трапіла ў бальніцу. Пагрозы яе жыццю няма.

Два чалавекі, якія ехалі на матацыкле, загінулі на месцы. Целы так знявечыла, што спачатку іх асобы і нават пол высветліць было немагчыма.

Па інфармацыі tut.by, у ДТЗ загінуў 28-гадовы кіроўца з Мінска Аляксей і яго 33-гадовы стрыечны брат Рустам, які жыў у Лепелі. Да дома Аляксея хлопцы не даехалі літаральна квартал.





Аляксей быў матацыклістам з амаль 10-гадовым стажам. Гэты байк ён купіў у маі мінулага года. Матацыкл быў пастаўлены на ўлік, на ім быў пройдзены тэхагляд.

Следчы камітэт распачаў крымінальную справу па факце парушэння ПДР, што пацягнула па неасцярожнасці смерць двух чалавек. Следчыя звяртаюцца да грамадзян, якія маюць звесткі аб тым, што здарылася, запісы электронных прылад відэарэгістрацыі ці іншую інфармацыю, звярнуцца па тэлефонах 102 ці (017) 389-50-02, каб дапамагчы ў расследаванні.

**Улад Швядовіч**



# Збіў насмерць і даў па газах

Яшчэ адно рэзананснае ДТЗ са смяротным вынікам адбылося ў Брэсце. Увечары 3 красавіка «БМВ» збіў пенсіянерку на пешаходным пераходзе.

Паводле папярэдняй інфармацыі, каля 22-й гадзіны дзве жанчыны пераходзілі вуліцу па пешаходным пераходзе. Серабрысты «БМВ», які ляцеў на вялікай хуткасці, збіў адну з іх. Але кіроўца не спыніўся. Наадварот, даў па газах і з'ехаў з месца здарэння.

Відавочцы адразу выклікалі хуткую і ДАІ. У горадзе быў уведзены план «Перахоп». Літаральна праз дзве гадзіны затрымалі кіроўцу разам з сябрамі, якія знаходзіліся ў салоне ў момант ДТЗ. 19-гадовы хлопец меў стаж кіроўцы 1,5 года, і за гэты час 79 разоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці.

На момант затрымання кіроўца быў нецвярозы — меў 1,1 праміле алкаголю ў крыві. Яго змясцілі ў ІЧУ.

«Цяпер з кіроўцам працуюць следчыя. Вырашаецца пытанне аб абранні ў дачыненні да юнака меры стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Для высвятлення ўсіх абставінаў таго, што адбылося, прызначаны шэраг судовых экспертыз», — паведамляе афіцыйны прадстаўнік УСК па Брэсцкай вобласці Марына Дранькова.

Неўзабаве знайшлі і «БМВ» — ён быў схаваны ў ангары закінутай вайсковай часткі.

Яго ўласнік меў акаўнт у сацсетках. Як паведамляе партал «Віртуальны Брэст», Аляксей С. купіў машыну ў растэрміноўку зусім нядаўна. СК не агучвае імя і прозвішча кіроўцы, таму сказаць, ці быў Аляксей за стырном у той вечар, ці не, пакуль нельга. Але на старонцы Аляксея можна знайсці фоткі з машынай, падпісаныя словамі «П'яныя ў нуль па сустрэчнай».

**УШ**

## Маці затрымалі пасля смерці 8-месячнай дачкі

Пра смерць немаўляці следству стала вядома ад маці памерлай дзяўчынкі. Жанчына 27 сакавіка каля 23.00 патэлефанавала ў хуткую дапамогу і паведаміла, што яе дачка не падае прыкмет жыцця.

Маці затрымалі. Была распачата крымінальная справа за свядомае пакіданне ў небяспецы, здзейсненае асобай, якая сама па неасцярожнасці паставіла пацярпелага ў небяспечны для жыцця або здароўя стан.

На момант затрымання маці была п'янай — у крыві яе знайшлі 1,7 праміле алкаголю.

Таксама ў кватэры знаходзіўся сабака пароды хаскі. Яго перадалі ў пункт часовага ўтрымання. Следчыя паведамілі, што на целе дзяўчынкі знайшлі сляды сабачых зубоў, але ў СК падкрэслілі, што аб прычыннавыніковай сувязі між тымі ўкусамі і смерцю дзіцяці казаць рана.

У Следчым камітэце таксама распавялі, што пры аглядзе кватэры не было знойдзена прадуктаў харчавання — ні для дзіцяці, ні для сабакі.

Цяпер следчыя апытваюць сваякоў, каб высветліць абставіны трагедыі. Прызначаны шэраг экспертных даследаванняў, у тым ліку судова-медыцынская экспертыза, якая дасць магчымасць высветліць дакладную прычыну смерці.

**УШ**



## У галаве лялькі мытнікі знайшлі чатырох змеяў

«У пасылцы, адпраўленай з ЗША на адрас жыхара Мінскага раёна, згодна з суправаджальнымі дакументамі, перасылалася лялька. Якое было здзіўленне супрацоўнікаў мытні, калі яны, праводзячы аперацыі мытнага кантролю, унутры цацкі знайшлі чатыры жывыя змяі», — паведамляе прэс-група мытні «Мінск-2».

Мытнікі нагадваюць, што перасылка ў міжнародных паштовых адпраўленнях жывых істотаў забароненая ў адпаведнасці з артыкулам 18 Сусветнай паштовай канвенцыі і Заключным пратаколам Сусветнай паштовай канвенцыі, а таксама артыкулам 313 Мытнага кодэкса Мытнага саюза.

Па гэтым факце мытня «Мінск-2» распачала адміністрацыйны працэс.

## Рабаўніка выявілі праз адзінаццаць гадоў дзякуючы генатыпу

Гродзенскі міжраённы аддзел Следчага камітэта скончыў расследаванне крымінальнай справы па факце разбойнага нападу на дырэктара прыватнага прадпрыемства, здзейсненага 15 красавіка 2005 года ў Гродне.

У яго кватэру праніклі двое мужчын і збілі драўлянай бітай. Нягледзячы на атрыманыя траўмы, пацярпелы здолеў выскачыць на лесвічную пляцоўку і паклікаць на дапамогу суседзяў, што вымусіла бандытаў збегчы.

У кватэры пацярпелага міліцыянты знайшлі шапку-маску з прарэзамі для вачэй, якую бізнэсовец сарваў з галавы аднаго з нападнікаў. Эксперты выявілі на ёй біялагічныя сляды, якія дазволілі вылучыць генатып уладальніка.

Але тады расследаванне было безвыніковым, і крымінальную справу прыпынілі.

А ўжо ў лютым 2016, дзякуючы прымяненню сучаснага аналітычнага абсталявання і найноўшых методык, эксперты высветлілі, што выяўлены на шапцы з прарэзамі для вачэй генатып належыць жыхару Гродна 1980 года нараджэння.

Следам высветлілі і асобу саўдзельніка злачынства — гэта быў жыхар Гродна 1979 года нараджэння, які тры гады таму памёр.

На прадпрымальніка яны напалі, каб завалодаць грашыма.

Падазраваны быў затрыманы і пасля змешчаны пад варту. Яму выстаўлена абвінавачванне ў здзяйсненні рабаўніцтва і пагражае да 15 гадоў зняволення. Крымінальная справа накіраваная ў суд.

**УШ**

## Справа «Мінсккаапдругрэсурсаў»: затрымана 12 чалавек

Следчы камітэт паведаміў пра затрыманне дырэктара «Мінсккаапдругрэсурсаў» і яшчэ 11 чалавек. Яны падазраюцца ў крадзяжы грошай прадпрыемства.

Дырэктар арганізаваў, а яго падначаленыя ажыццяўлялі прыём другасных рэсурсаў па завядома заніжаных цэнах. Далей сыравіна прадавалася па звычайнай цане, і атрыманая грашовая выгада асядала ў кішэнях саўдзельнікаў. Паведамляецца, што за тры месяцы 2015 года шкода склала больш за 200 мільёнаў.

Дакладная сума яшчэ высвятляецца. Распачатая крымінальная справа.

### Сцісла

**Пенсіянерка цудам засталася жывая пасля падзення пад цягнік**

70-гадовая жанчына пераходзіла рэйкі на прыпыначным пункце Хвайняны, што за некалькі кіламетраў ад Скідаля, перад цягнікомГродна — Ліда. У нейкі момант паслізнулася і павалілася. Жанчыну выратавала тое, што яна ўпала паміж рэйкамі, таму пашкоджанні былі нязначнымі: гематома на лобе і траўма ступні.

**Аддзячыў**

У Гродне п'яны пасажыр спрабаваў зарэзаць кіроўцу, які падвёз яго. Кіроўца выжыў. Пасажыр затрыманы.

**Абараніў сабаку**

У Навагрудку 59-гадовы мужчына да смерці збіў свайго брата за тое, што той ударыў яго сабаку. Падазраваны затрыманы.

**Вырашыла «падзарабіць»**

33-гадовая бухгалтарка мінскай фірмы скрала больш за 1,7 млрд рублёў. Жанчыну затрымалі, ёй пагражае да 12 гадоў з канфіскацыяй.

**Знайшлі цела невядомага**

Пад Мінскам у згарэлым аўтамабілі знойдзены труп чалавека. Прычыны ўзгарання і асоба загінулага высвятляюцца.

**Маляваў крывёй на царкве**

30-гадовы жыхар Дзятлава ноччу прыйшоў да царквы і ўласнай крывёю намаляваў на дзвярах перакручаную зорку ў коле. Міліцыі ён патлумачыў, што яго вабяць сатанінскія рытуалы.

**УШ**

# На ўласным досведзе: Данія —

Піша Зміцер Панкавец.

У абноўленым рэйтынгу самых шчаслівых краін Еўроп датчане займаюць першы радок. Не адбіваецца на іх негатыўна нават недахоп сонечных дзён. Некаторыя навукоўцы мяркуюць, што схільнасць датчан да шчасця звязаная з генетыкай. Здаецца ж, усё крыху прасцей: жыхары краіны задаволеныя дабрабытам, стаўленнем дзяржавы да іх і спакойна глядзяць у будучыню.


Аўтар каля помніка Русалачцы.

Датчане — самыя паўднёвыя, але ўсё ж скандынавы. Даўным-даўно з тэрыторыі Даніі вікінгі ладзілі выправы па ўсёй Еўропе, у якіх рабавалі і забівалі дзеля золата і каштоўных камянёў. Вікінгі наводзілі страх на Балтыю, Вялікабрытанію, дасягалі Лісабона. У 845 годзе продкі датчан разрабавалі Парыж. Гэтыя людзі ў літаральным сэнсе не ведалі, што такое страх, а загінуць у баі было для іх гонарам, каб трапіць пасля смерці ў Вальгалу. Сёння ва ўсім свеце вельмі папулярны серыял пра паўлегендарнага дацкага конунга (караля) Рагнара Ладброка «Вікінгі».

Шведы жартуюць, што датчане зусім не падобныя да скандынаваў. Маўляў, занадта эмацыйныя і безразважныя. Датчане доўга смяяліся са шведаў, калі тыя прыдумалі рамяні бяспекі ў аўтамабілях ці сталі выкарыстоўваць шлемы падчас язды на роварах. А самі датчане лічаць шведаў грубымі і нешляхетнымі. Але пакінем у спакоі гэтыя справы суседскія.


Бухта Нюхаўн — самае турыстычнае месца Капенгагена.

Асабіста мне не ўдалося заўважыць у датчанах нейкую авантурнасць. Тут, як і ў Беларусі, людзі пераходзяць дарогу выключна на зялёнае святло. Уявіць такое ў Італіі ці Іспаніі проста немагчыма.

**Данія**

Краіна на поўначы Еўропы. Кантынентальна мяжуе з Германіяй, па моры — са Швецыяй.

Насельніцтва — 5,7 мільёна чалавек (у Беларусі — 9,5).

Плошча — 42,3 тысячы квадратных кіламетраў (Беларусь большая амаль у пяць разоў — 207 тысяч).

Палітычны лад — канстытуцыйная манархія. Фактычным кіраўніком краіны з'яўляецца не каралева, а прэм'ер-міністр.

Цывілізацыйны выбар — Еўрасаюз.

ВУП на душу насельніцтва — 44,6 тысячы даляраў (Беларусь — 18,2), паводле звестак МВФ.

### Як дабірацца?

Даляцець да Капенгагена проста. Прамыя рэйсы ёсць як з Вільні, так і з Коўна. Білеты таксама, як і ў астатнія скандынаўскія краіны, танныя. Даляцець да Капенгагена з Вільні ці Каўнаса каштуе 15—50 еўра ў два бакі.

Таксама з Вільні лётаюць самалёты да шведскага Мальмё, з якога ў Капенгаген можна трапіць па Эрэсунскім мосце, памятным многім па іншым папулярным серыяле «Мост».

Не так даўно расійскія сайты стракацелі загалоўкамі, што на шведска-дацкай мяжы ўзноўлены кантроль. Быў сведкам, як ён выглядае: у Капенгагене на вакзале перад выхадам з цягніка стаяць тры чалавекі ў жоўтай вопратцы, якія фатаграфуюць ваш пашпарт. Працэдура доўжыцца секунд дваццаць-трыццаць. Шведы правяраюць проста ў цягніку. Ветліва, ніякіх падазрэнняў. Пабачыўшы мой беларускі пашпарт, памежнік нават крыху разгубіўся, але, знайшоўшы візу, задаволена прамовіў: «Вітаем вас у Швецыі».

### Чым перасоўвацца?

Да капенгагенскага аэрапорта ідзе метро. Дарэчы, калі дабіраецеся з Мальмё ў цэнтр Капенгагена, то плаціць асобна за метро не трэба. На яго дзейнічае квіток цягніка.


Данія — рай для раварыстаў.


Каралева Маргрэтэ II да ўзыходжання на пасад служыла ў войску.

У Капенгагене самы папулярны від транспарту — гэта ровар. Утрымліваць аўтамабіль нявыгадна. Бо, купляючы машыну, вам давядзецца выкласці яшчэ больш за 100% мыта. А калі аўто дарагое, мыта дасягне 180%. Пры ўсім пры гэтым датчане адчуваюць сябе сацыяльна абароненымі. Цэны ў краіне не растуць. Сярэдні датчанін атрымлівае за гадзіну працоўнага часу 40 еўра. Беларусы пра такое пакуль нават не мараць.

Што тычыцца ровараў, то яны, здаецца, ёсць у кожнага жыхара Капенгагена. У гэтым плане дацкая сталіца супернічае з Амстэрдамам. Які ж горад сапраўдны №1 для раварыстаў?

Цікавая дэталька: датчане ездзяць на простых веліках. Прыкладна на такіх ездзяць у нас у вёсках бабы і дзяды. Усё проста і практычна. Убачыць чалавека на «горным» ровары нерэальна. Гэта ў нас людзі, калі ўжо купляюць веласіпед, то вельмі дарагі. У датчан мы можам вучыцца гэтай простасці.

Яна, дарэчы, выражаецца шмат у чым. Ва ўсім скандынаўскім свеце не прынята завешваць фіранкамі вокны. Кожны можа паглядзець, як жывуць мясцовыя. І вось ізноў: поўная адсутнасць усялякіх пантоў і наваротаў. Ніхто табе не будзе, як у Беларусі, вешаць крыштальную люстру на палову столі, ніякіх вензеляў і персідскіх кілімаў. У кватэрах стаіць драўляная мэбля, халадзільнік, усе вельмі проста і з густам. Відаць, гэтаксама выглядалі кватэры і 50 гадоў таму. Адзінае, што падказвае пра сучаснасць, — гэта паўсюдныя «макбукі» на сталах. Датчане не звыкліся кічыцца раскошай.

У Капенгагене цалкам магчыма ўзяць ровар напракат задарма. У горадзе хапае такіх стаянак, дзе, пакінуўшы 20 крон (каля 3 еўра), можна ўзяць ровар. Пакідаць яго зусім не абавязкова на тым самым месцы. Пры вяртанні транспарту грошы вам вяртаюць.

### Дзе жыць?

А вось гэта для небагатых беларускіх турыстаў сапраўды праблема. Жыллё ў дацкай сталіцы касмічна дарагое. Самыя танны двухмесны нумар будзе каштаваць каля 60 еўра за ноч. Калі вы не баіцеся хостэлаў, то начлежку на аднаго чалавека ў 6—12 месным нумары можна знайсці ў раёне 20—30 еўра.

Што рабіць? Ёсць варыянт з пошукам кватэраў праз папулярны сайт *airbnb.com*. Гэта будзе крыху танней за гатэлі.

Калі надумалі ўсё ж ехаць, то трэба маніторыць розныя сэрвісы па пошуку жылля. Вельмі проста гэта, напрыклад, рабіць праз сайт *HotelsCombined.com*. Цалкам магчыма, што вы наткняецеся на нейкую акцыю са зніжкамі.

### Дзе памяняць грошы?

Дацкія банкі бяруць камісію пры абмене валюты, яна складае драпежныя 13%. Такім чынам, у Даніі ўвогуле лепш за ўсё не мець пры сабе папяровых і металічных грошай. Разлічыцца карткай можна абсалютна ўсюды. Уладальнікам картак трэба памятаць, што ў Даніі амаль нідзе не прымаюць «нечыпаваныя» карткі.

### Што есці?

Зноўку сутыкаемся з праблемай дацкай дарагавізны. Схадзіць у кавярню ці рэстаран — задавальненне нятаннае.

У абед ратуюць так званыя *buffet*-ы. Гэта такая сістэма, калі ты прыходзіш ва ўстанову, плаціш за ўваход, а есці можаш колькі хочаш. Звычайна «буфеты» — гэта рэстараны з кітайскай ці турэцкай кухнямі. Іх дастаткова шмат у цэнтры горада. Працуюць яны да 17-й, а пасля пераходзяць у рэжым звычайных кавярняў. Паесці там каштуе, як правіла, менш за 10 еўра, але ёсць і падвох: апроч ежы вы мусіце абавязкова замовіць напой. Гэта можа быць чай, кава, газіроўка ці піва. Такім чынам, рахунак істотна ўзрасце.


Квартал Нюбодэр — самая фотагенічная славутасць Капенгагена.


У Даніі праходзяць спаборніцтвы па прыгатаванні смёрэбродаў.

# самая шчаслівая краіна ў свеце

Калі ўсё ж ёсць жаданне пакаштаваць нечага аўтэнтычнага дацкага, то тут можа чакаць пэўнае расчараванне. Ледзьве не галоўнай нацыянальнай стравай у Даніі лічыцца бутэрброд, дакладней ягоная разнавіднасць — смёрэброд. Існуюць тысячы варыянтаў смёрэбродаў, кухары спаборнічаюць, хто ж прыдумае найбольш арыгінальны рэцэпт. У смёрэбродзе звычайна на маленькім кавалачку жытняга хлеба пласт за пластам укладваюць гуркі, сялёдку, яйкі, цыбулю, усялякія соусы, вяндліну, крэветкі, ласося. Карацей, што трапіцца пад руку. Ад класічнага бутэрброда адрозненне такое, што смёрэброд «расце» ўвышкі і ядуць яго пласт за пластам. Каштуюць смёрэброды нятанна — каля 10 еўра.

Калі і гэтага акажацца мала, то ў турыстычных месцах можна пакаштаваць і іншых дацкіх прысмакаў, кшталту салодкага селядца. Але думаецца, што рабіць гэта зусім не абавязкова.

Харчавацца ежай з супермаркетаў нашмат танней. Цэны вышэйшыя, чым у Мінску, але не сказаць, што шакуюць. У магазінах ёсць адмысловыя паліцы з прадуктамі, тэрмін прыдатнасці якіх сканчаецца, іх можна браць з вялікай зніжкай.

### Што піць?

Данія — адзіная скандынаўская краіна, якая не мае абмежаванняў у продажы алкаголю. Калі ў Швецыі ці Ісландыі алкаголь можна набыць толькі ў адмысловых крамах, то ў Даніі зрабіць гэта можна ў любой крамцы.

Данія славіцца сваім півам. Гэта радзіма славутага брэнда «Карлсберг», якому належыць мноства бровараў па ўсім свеце. Калі п'яце «Аліварыю» ў Беларусі, «Швітурыс» — у Літве ці «Балтыку» — у Расіі, то ведайце, што гэта ўсё належыць канцэрну «Карлсберг». У Капенгагене ёсць магчымасць схадзіць у музей бровара. У цану білета ўваходзіць яшчэ 2 куфлі піва.

У музеі сабраная самая вялікая ў свеце калекцыя нераспачатых піўных бутэлек. Прычым сабраныя яны з усяго свету — ад Японіі да Грэнландыі. Беларускіх экспанатаў у экспазіцыі чамусьці няма. Дарэчы, на заводзе «Карлсберг» у вочы кінецца свастыка. Яна нанесеная нават на аграмадных марму-ровых сланах, што размешчаныя на тэрыторыі завода. Бровар выкарыстоўваў гэты сімвал ад моманту стварэння ў канцы XIX стагоддзя аж да 1940-х. Выкарыстоўвалася «Карлсбергам» і зорка Давіда.

Датчане ў гады вайны былі ўнікальнай нацыяй, якая змагла выратаваць амаль усіх сваіх габрэяў. Грамадскасць краіны ў гады фактычнай акупацыі выступала рэзка супраць антысеміцкіх артыкулаў, а кароль Даніі Крысціян X у 1942 годзе наведаў сінагогу. Удзельнікі дацкага супраціву змаглі перавезці з краіны ў нейтральную Швецыю 7200 з 7800 габрэяў.

Калі вяртацца да напояў, то Данія славіцца сваім крафтавым півам. Адным з найбольш папулярных месцаў з'яўляецца *Mikkeller Bar* — адзін з завадатараў піўных трэндаў у Еўропе.

### Небяспекі

Амаль у цэнтры Капенгагена знаходзіцца вядомы на ўвесь свет раён Хрысціянія. У гэтым квартале горада некалі даўно аселі хіпі. Яны засяліліся ў старыя закінутыя казармы. Цяпер гэта такая «дзяржава ў дзяржаве», са сваімі правіламі, законамі і нават сцягам. Некалькі разоў дацкія ўлады спрабавалі разагнаць Хрысціянію, але спробы былі няўдалымі.

На вуліцах Хрысціяніі ідзе спакойна продаж лёгкіх наркотыкаў, а ў паветры вісіць густы пах «травы». У Хрысціяніі забароненая відэа- і фотаздымка. Мясцовыя гандляры баяцца, што па фота паліцыя можа пазнаць іх па-за межамі Хрысціяніі. Такім чынам, калі ў вас у руках пабачаць фоцік, то рэакцыя можа быць дастаткова агрэсіўная.

### Што паглядзець?

Самыя папулярныя турыстычныя месцы дацкай сталіцы — гэта бухта Нюхаўн, помнік Русалачцы, а таксама парк «Цівалі».



Хрысціянія — не самае прывітнае месца ў дацкай сталіцы.

**Нюхаўн**

Нюхаўн — самы маляўнічы раён Капенгагена. Каля бухты размешчаныя прыгожыя каляровыя дамкі, побач стаяць яхты. Шмат адкрытых рэстаранаў і бараў, а таксама турыстаў. Раней гэта было самае «дно» горада, дзе збіраліся матросы пасля доўгіх выхадаў у мора, пілі і балявалі. Цяпер жа гэта вельмі ціхі квартал. Можа, некалі падобная трансфармацыя чакае і Хрысціянію? Дарэчы, калі ёсць жаданне пракаціцца на катары і паглядзець на Капенгаген з вады, то зусім не абавязкова гэта рабіць разам з экскурсіяй і пераплачваць. Ёсць магчымасць праехаць на звычайных маршрутных катарах, якія ходзяць як у нас тралейбусы ці аўтобусы.


Аграмадныя сланы на тэрыторыі завода «Карлсберг».

**«Цівалі»**

Тутсама знаходзіцца дом №18, дзе некалі жыў Ганс Хрысціян Андэрсан. Помнік вялікаму казачніку размешчаны недалёка ад увахода ў парк «Цівалі». Кажуць, што менавіта пасля наведвання гэтага комплексу ідэяй адкрыцця парку забаваў загарэўся Уолт Дыснэй. У «Цівалі» хапае цікавых атракцыёнаў, але там прыемна проста пагуляць ці пакарміць паўлінаў. Варта памятаць, што «Цівалі» працуе ў летні перыяд (ад красавіка да верасня), на Хэлоўін (ад 14 да 23 кастрычніка) і на Раство (ад 11 лістапада да 30 снежня).

**Русалачка**

Што тычыцца Русалачкі, дык, кажуць, гэты помнік шмат каго расчароўвае. Невялічкая скульптура (125 см) знаходзіцца ў порце Капенгагена на фоне індустрыяльных пейзажаў. І тым не менш усё адно тысячы і тысячы людзей цягнуцца да Русалачкі, бо ёсць у гэтым помніку штосьці сапраўднае і прыгожае: непадробны сум і каханне. Гэты помнік падарыў гораду Карл Якабсэн — сын заснавальніка «Карлсберга», — а пазіравала ягоная жонка Элінэ.

Ёсць у Капенгагене яшчэ падводны помнік Трытону і яго дзецям, якія чакаюць з сушы жонку і маці. Водарасці наводзяць на гэты помнік дадатковы вусціш.

**Нюбодэр**

Пра гэта мала пішуць у турыстычных гідах, але абавязкова схадзіце ў раён Нюбодэр (гэта недалёка ад Русалачкі). Гэта таксама раён былых вайсковых казармаў, які перарабілі ў сімпатычныя недарагія дамкі. Любая дэталька Нюбодэра ідэальна кладзецца на фота, проста рай для аматараў інстаграмаў.

Ёсць у Капенгагене таксама каралеўскія палацы, Ратуша, прыгожыя вуліцы, музеі і фантаны.

Хоць у гэтым тэксце ўжо двойчы згадваліся былыя казармы, але Данія — адна з нямногіх еўрапейскіх краін, якая яшчэ не адмовілася ад абавязковай вайсковай службы. Як і не адраклася сваёй валюты. Еўрасаюз Еўрасаюзам, але выракацца свайго датчане не спяшаюцца. Можа, у гэтым і ёсць сакрэт іх шчасця.

*Капенгаген — Мінск*


Цэнтральная вуліца Капенгагена Строгет заўсёды запоўненая людзьмі.

# Гісторыя Драздоў

Пра ўзнікненне слаўнага пасёлка Драздыі знітаваную з ім гісторыю свайго роду піша Зміцер Дрозд.



**Гаспадары Драздоў. У цэнтры сядзіць Ганна Францаўна Бартноўская-Ярашэвіч, жонка Рыгора Паўлавіча Дразда. Стаяць злева направа: іх дачка Марыя Дрозд (па мужу Суша), зяць Вінцэнт Чалядзінскі (ездзіў у Архангельск забіраць тых, хто выжыў), сын Мікалай Дрозд (расстраляны ў 1938), справа сядзіць дачка Вольга Дрозд (па мужу Манкевіч). Фота зроблена ў Драздах у 1926, за 3 гады да раскулачвання.**

Калі я пачаў даследаванне свайго радаводу, я быў упэўнены, што маё прозвішча — Дрозд — паходзіць ад назвы вядомага цяпер усёй Беларусі населенага пункта Дразды. У гэтым пасёлку нарадзіліся я, мой бацька, мой дзед, а цяпер там знаходзіцца рэзідэнцыя кіраўніка дзяржавы... Быў я перакананы і ў тым, што гэтая вёска існавала здаўна. Якое ж было маё здзіўленне, калі ні ў адным з дарэвалюцыйных геаграфічных даведнікаў я яе не знайшоў! Спатрэбілася некалькі гадоў пошукаў, каб гісторыя з'яўлення маіх продкаў на ўскраіне Мінска, а пасля з'яўлення і пасёлка Драздыпаўстала ў агульных рысах.

### Гісторыя поспеху сялянскай сям'і

Самыя старажытныя мае продкі з тых, каго ўдалося адшукаць, жылі ў вёсцы Зарэчча на ўзбярэжжы Свіслачы — цяпер гэта бераг Мінскага мора, недалёка ад дамбы. Упершыню Зарэчча згадваецца ў дакументах — не верыцца! — аж у 1557 годзе. А першы вядомы мне ўспамін пра маіх прамых продкаў — гэта 1752 год, калі ў метрычнай кнізе Тарасаўскай уніяцкай царквы былі запісаныя Максіміліян і Канстанцыя Драздоўскія. Менавіта так (згадваецца і варыянт Драздовіч) яны называліся ў дакументах у часы Вялікага Княства Літоўскага. Прозвішча Дрозд з'явілася ўпершыню толькі ў рэвізскіх сказках у 1795 годзе, падчас расейскай акупацыі.

Драздыбылі сялянскай сям'ёй, прыгоннымі, і памянялі шмат гаспадароў. Паны Валадковічы прадалі сям'ю мінскаму суддзі Казіміру Піетуху. Потым за яго пазыкі Драздыперайшлі да ўніяцкага святара Мінскай Уваскрасенскай царквы Пятра Сіткевіча, пасля вярнуліся да дачкі Піетуха — Ніфмы Брацовай... У 1861 Драздысталі вольнымі і пачалі працаваць на сябе. А працаваць яны ўмелі, і ўжо праз некалькі гадоў былая гаспадыня пазычала ў Драздоў грошы. Так, 15 мая 1868 яна ўзяла ў іх пад заклад свайго маёнтка Яркова (на паўднёвым захадзе ад Мінска) 400 рублёў.

Пступова Драздыстал скупляць у былых паноў надзелы зямлі, арабляць, багацець, укладаць грошы ў новыя землі. Багацце не звалілася на іх з неба, а было зароблена крывёй і потам.

На шчасце, у маіх далёкіх сваякоў, нягледзячы на ўсе пераезды, войны, раскулачванне, захаваліся дзве купчыя крэпасці на землі, якія і сталі пасля пасёлкам Драздыі. 15 сакавіка 1892 мой прапрапрадзед Павел Аляксеевіч Дрозд купіў у памешчыка Віктара Рудольфавіча Хелхоўскага (нашчадка мінскага ваяводы Адама Хмары) каланізацыйны, г.зн. вызвалены ад лесу і неабжыты, участак зямлі па правы бок ад Віленскай паштовай дарогі — некалі асноўнай трасы з Мінска ў Вільню. 43 дзесяціны зямлі каштавалі прыстойную па тых часах суму — 1000 рублёў срэбрам.

З аднаго боку ўчастак абмяжоўвала Віленская дарога, з другога — зямля селяніна Марціна Гермалкевіча, з трэцяга — Архірэйскага дома і Біруковіча, з чацвёртага — шляхціца Лапушынскага. Зямля калежскага сакратара Васіля Біруковіча і стала наступным набыткам Паўла Дразда: 9 верасня 1893 ён набыў за 303 рублі срэбрам фальварак «пад назвай Мігуранка або Дуды», з сядзібай, будынкамі, ворнай зямлёй і сенакосам — усяго 10 дзесяцін.

Мігуранка-Дуды быў абжытым участкам на беразе Свіслачы, першая згадка пра яго адносіцца да канца XVIII ст. Тады, калі верыць дакументу, дадзенаму ў мінскім магістраце (а ставіцца да такіх даводзіцца з пэўным падазрэннем, бо спатрэбілася цэлая следчая камісія, каб разабрацца з фальшыўкамі, улепленымі ў магістрацкія актавыя кнігі), у 1791 жонка лаўніка Радашковіч Кацярына з Анашкевічаў Більдзюкевічава ад паноў Чарняўскіх набыла «зямлю, цяпер ужо зарослую хваёвымі дрэвамі, паблізу горада Мінска». Праўда, ужо ў 1800 яна прадала той участак пад назвай Тры Нівы Каралю Петрашкевічу за 450 польскіх злотых.

У 1805 Петрашкевіч прыкупіў у шляхціца Францішка Шваноўскага і сенакос над Свіслаччу, называны Мігуранка. Тут і быў пабудаваны фальварак, які ў 1851 дастаўся дачцэ Караля, Кацярыне. Тая выйшла замуж за паручніка Калістрата Плаўскага. Участак гэты быў прадметам спрэчак аб межах з суседзямі Хмарам і Більманам, але, у рэшце рэшт, так і застаўся ва ўдавы Плаўскай ужо пад падвойнай назвай Мігуранка-Дуды. У сакавіку 1885 гэту зямлю набыў з аўкцыёну ў Мінскім губернскім праўленні Біруковіч, які і прадаў фальварак Паўлу Дразду.

Гэтыя 53 дзесяціны (каланізацыйны ўчастак і фальварак Мігуранка-Дуды) і сталі асновай будучых Драздоў. Гэта значыць, менавіта мае продкі далі назву гэтай зямлі, а не наадварот. Але назва прыжываецца пступова, і яшчэ падчас перапісу 1926 г. месца, дзе жылі мае Драздыі, называецца складанай назвай хутар Дуды-Драздыі-Хмарынскі пчальнік. А на савецкай карце 1930-х прысутнічае ўжо толькі назва Драздыі.

### Мінскі курорт

Зямля гэтая ляжала на самай мяжы Мінска — і ў 1911 яна мела ўсе шанцы трапіць у гарадскія межы. Карта, якая захавалася ў Нацыянальным гістарычным архіве, паказвае, што нейкі час не было рашэння па гэтым пытанні — і ўчастак зямлі селяніна Паўла Дразда прыкладаецца да гэтай карты як аплікацыя, у выглядзе маленькага трохкутніка. Але тады мяжа горада так і прайшла па мяжы зямлі Дразда, пакінуўшы яго ўладанні, як бы мы цяпер сказалі, у раёне — у Сёмкава-Гарадоцкай воласці Мінскага павета. У Мінск пасёлак Драздыбыў уключаны толькі ў 1978 годзе, але да гэтага моманту нашчадкам Паўла Дразда давялося перажыць не адно выпрабаванне.

Да рэвалюцыі і надоўга пасля яе мае продкі паспяхова выкарыстоўвалі выгаднае становішча Драздоў і не ператваралі іх у сельскія ўгоддзі, хоць, вядома, займаліся гаспадаркай: сеялі, трымалі жывёлу, лавілі рыбу, палявалі, касілі свае сенажаці — г.зн. забяспечвалі сябе амаль усім неабходным. Але ў дадатак яны пабудавалі на гэтай зямлі дамкі, якія здавалі багатым мінчукам пад дачы на лета (падобны дачны пасёлак быў у Кальварышках — бліжэй да сучаснага Камсамольскага возера — у пані Масальскай). Справа гэта была выгадная, што дазваляла сям'і багацець, набываць аўтарытэт у наваколлі і нават выдаваць сваіх сыноў за дачок шляхціцаў. Але пасля рэвалюцыі гэтая ўдача павярнулася вялізнай трагедыяй.

Сам Павел Дрозд не дажыў да тых чорных дзён. Ён памёр у 62-гадовым веку яшчэ ў 1898-м і пахаваны на могілках у вёсцы Крупцы, што цяпер на праспекце Пераможцаў, каля Інстытута фізкультуры. Павел пакінуў пасля сябе трох сыноў: Рамана (у якога было не менш за 5 дзяцей), Рыгора (да паўналецця дажылі 6 дзяцей) і Васіля (не пакінуў нашчадкаў) — і дачку Варвару Семіжон (5 дзяцей).

### Данос і высылка ў архангельскія лясы

За гэтыя дачы — або, як тады гэта было названа, «непрацоўныя даходы» — сем'і нашчадкаў Паўла Дразда былі абкладзеныя дадатковым індывідуальным падаткам. Газета «Рабочы» (якая потым стала «Савецкай Беларуссю») у нумары № 229 ад 6 кастрычніка 1929 надрукавала артыкул «Помещичье гнездо — в 4-х верстах от Минска».

Падпісаўся даносчык усяго адной літарай Н. — што наўрад ці пакідае надзею калісьці даведацца яго сапраўднае імя. Каб хлусня была пераканаўчай, яна павінна змяшчаць фрагменты праўды. Так, сям'я мела 53 дзесяціны — прыстойны кавалак зямлі, ды яшчэ ў добрым месцы. Але ж у Паўла Дразда было чацвёра дзяцей, якім на той час было па 55—60 гадоў! Яны і падзялілі зямлю паміж сабой. А ў іх у сваю чаргу было не менш за 15 дзяцей, некаторыя з якіх ужо набліжаліся да 25—30-годдзя і мелі сваіх дзяцей... Называць іх супольны надзел «памешчыцкім гняздом» — відавочная хлусня.

Асведаміцель піша пра мізэрны падатак у 140 рублёў, які плаціць



**Зміцер Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кніг «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900», «Землеўласнікі Мінскай губерні 1900—1917». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.










**Драздзы, сучасны выгляд. У пасёлку Вясёлкавы жыве чынавенства, за Свіслаччу, у паўночна-ўсходнім кірунку, — кіраўнік дзяржавы і набліжаныя асобы.**

за зямлю Васіль Дрозд, маючы з яе «некалькі тысяч у сезон». Але чамусьці замоўчвае, што падаткі плацілі ўсе Драздзы. Па дадзеных за 1926 год, сям'я Драздоў была самым буйным падаткаплатнікам ва ўсім Азярышча-Сляпянскім сельсавеце. Раман плаціў 340 рублёў, Васіль — 225, Рыгор — 80, Канстанцін — 25, у той час як іншы самы буйны плацельшчык Брылеўскі плаціў усяго 75 рублёў, а большасць — па 10—20 рублёў.

У 1930 сям'я Драздоў была раскулачаная і высланая ў Паўночны край. Пашанцавала толькі тым, хто на гэты момант ужо жыў асобна ад бацькоў.

Можна толькі здагадвацца, у якіх вельмі складаных умовах апынуліся людзі сталага веку з вялікімі сем'ямі. Тры даты скажуць пра гэта лепш за любыя апісанні: 28 мая 1931 памёр Васіль Дрозд, 17 чэрвеня 1931 — Рыгор Дрозд, 11 ліпеня 1931 — Ксенія Емяльянаўна, жонка Рамана Дразда. Гэта толькі тыя смерці, пра якія засталіся дакументальныя сведчанні: тры страты за паўгода. Ад гібелі астатніх старых выратавала тое, што велізарная смяротнасць выклікала ў самых катаў нейкія прыступы чалавечнасці, а можа, папросту статыстыка смяротнасці псавала іншыя паказчыкі поспехаў калектывізацыі. Сваякам, якія засталіся ў Беларусі, дазволілі забраць пажылых бацькоў з высылкі дадому. Вярнуцца ўдалося жонцы Рыгора Ганне і Раману Драздам. Іх сваякам давялося асабіста прыехаць у архангельскія лясы па сваіх блізкіх.

### Тры «польскія шпіёны»

Але быў і іншы спосаб вярнуцца дадому: уцёкі. Беглі з таго пекла масава, бо людзі жылі не ў лагерах пад аховай, а проста ў населеных пунктах, часта і наогул у лясах, у пабудаваных імі ж самімі бараках. Сын Рыгора Мікалай уцёк з высылкі і хаваўся ў сваякоў, пакуль не спала хваля барацьбы з кулакамі. Але лёс яго быў не менш трагічны: у 1938 Мікалая Дразда расстралялі як «агента польскай разведкі». У архіве КДБ па ягонай справе захавалася мала дакументаў — практычна нічога. Як патлумачыў захавальнік, большая частка справы, дзе былі пратаколы допытаў, загінула пры эвакуацыі падчас вайны.

На допыце, відаць, пад катаваннямі, Мікалай даў паказанні: «завербаваны ў 1930 агентам польскай разведкі Дрозд Васілём Паўлавічам. Па шпіёнскай працы да 1935 года быў звязаны з агентам польскай выведкі Дрозд Раманам, якому сістэматычна перадаваў шпіёнскія матэрыялы аб размяшчэнні шэрагу ваенных гарадкоў паблізу Мінска, аб іх узбраенні і звесткі аб стане і працы мінскіх заводаў Молатава і «Пралетар» і пра настроі працоўных».

І гэта прытым, што ўсе Драздзы былі ў 1930 высланыя ў Паўночны край і ніяк не маглі шпіёніць за мінскімі вайсковымі гарадкамі. Відавочна, Мікалай назваў тых, каму ўжо ніяк не мог нашкодзіць: Васіль Дрозд памёр у высылцы ў 1931, а Раман, якому Мікалай нібыта перадаваў звесткі аж да 1935-га, — у 1934-м. Хутчэй за ўсё, Мікалай ляжыць у Курапатах — без магілы і крыжа. Яму было толькі 36 гадоў. У 1989-м яго рэабілітавалі.

### «У сілу антысавецкіх перакананняў прыходу немцаў былі вельмі радыя»

Пасля дзесяцігоддзяў прапаганды пра тое, што «ўсе як адзін усталі на барацьбу за савецкую радзіму», складана ўспрымаць звесткі аб тым, што многія беларусы звязвалі з прыходам немцаў надзеі на вызваленне ад бесчалавечнай улады бальшавікоў. Але, калі азнаёміцца толькі з гісторыяй маёй сям'і — дзе звычайныя сяляне, якія ўсяго дамагліся сваёй працай, з прыходам бальшавікоў страцілі зямлю, дамы, свабоду, радзіму і нават жыццё, — то можна, прынамсі, задумацца: ці была ў гэтых людзей хоць найменшая нагода любіць гэтую ўладу? Тым больш хацець аддаць за яе сваё жыццё? Іншая справа, што і акупанты пад прыгожымі лозунгамі хавалі зусім іншыя мэты, і мільёны савецкіх грамадзян апынуліся паміж двума крывавымі рэжымамі, кожны з якіх ні ў грош не ставіў чалавечае жыццё.

Ужо пасля вайны, у 1948, была арыштаваная Ганна Іосіфаўна Ніканава (ёй было тады 27 гадоў) — праўнучка Паўла Дразда. Яе абвінавацілі па расстрэльным артыкуле 58-1а («здрада радзіме»). Зрэшты, нягледзячы на допыты яе і ўсіх аднавяскоўцаў, нічога сапраўды злачыннага не змаглі даказаць і асудзілі на 5 гадоў высылкі проста як «сацыяльна чужы элемент». Яе справа захавалася ў Расіі, у архівах ФСБ. На допыце яна дала каштоўныя звесткі пра настроі нашай сям'і: «Бацькі маёй маці — Дрозд, да рэвалюцыі мелі буйную заможную кулацкую гаспадарку: 25 дзесяцін зямлі, да 10 галоў буйной рагатай жывёлы, коней. Мой родны дзядзька — Семіжон Андрэй, пры савецкай уладзе меў заможную кулацкую гаспадарку, якую ў 1930 годзе раскулачылі.

Дзядзька Семіжон быў арыштаваны, сядзеў у турме, а затым быў высланы з забаронай пражываць па месцы нараджэння. У сілу гэтых абставін усе мае сваякі былі варожа настроеныя да савецкай улады. Паколькі я выхоўвалася ў гэтым антысавецкім асяроддзі, я таксама была настроеная па-антысавецку. У сілу сваіх антысавецкіх перакананняў прыходу немцаў у нашу мясцовасць мы былі вельмі радыя, бо гэта давала магчымасць нашай сям'і зноў атрымаць тое, чаго мы былі пазбаўленыя савецкай уладай. Мы зноў атрымалі магчымасць жыць разам усёй сям'ёй, а ад нямецкіх уладаў атрымлівалі шэраг прывілеяў. З прыходам немцаў мой дзядзька Семіжон вярнуўся з высылкі і зноў стаў пражываць у сваім доме, які ў яго быў адабраны савецкай уладай».

З пункту гледжання афіцыйнай савецкай прапаганды сям'я Драздоў павінна была забыць усе крыўды і не проста любіць савецкую ўладу, але аддаць за яе жыццё...

Зрэшты, так і выйшла. Адразу пасля вызвалення Мінска ўнука Паўла Дразда — 46-гадовага Андрэя Семіжона — забралі ў войска. Тады грамадзян, якія засталіся на акупаванай тэрыторыі, не асабліва шкадавалі, лічачы іх як мінімум, не вартымі даверу. Многія з іх трапілі ў так званыя палявыя ваенкаматы — і фактычна вымушаныя былі загладзіць крывёю тое, што ў 1941 «непераможная і легендарная» аказалася не ў стане абараніць сваіх грамадзян. Людзей забіралі на фронт непадрыхтаванымі і кідалі ў бой як гарматнае мяса. З красавіка 1945, за месяц да перамогі, у прускім горадзе Штолып (цяпер польскі Слупск) Андрэй Семіжон быў паранены і на наступны дзень памёр «ад шоку».

### Дачы Саўміна

Пасля высылкі і вайны Драздзы, якія засталіся ў жывых, вярнуліся дадому. Яшчэ да раскулачвання некаторыя дзеці жылі асобна ад бацькоў, што выратавала іх ад высылкі — вось у іх дамах і сталі туліцца ўсе астатнія. Ад некалі багатай гаспадаркі засталіся рэшткі. Нават дамы іх былі разабраныя і перавезеныя ў іншыя месцы. Так, казалі, што ў адным з гэтых дамоў пасля жыў старшыня калгаса, а ў іншым — зрабілі клуб.

Яшчэ ў 1930-я на землях Драздоў быў піянерскі лагер, а пасля гэтая зямля адышла пад дачы НКВД. Там жа пасля вайны размяшчаліся «дачы Саўміна» і жылі партыйныя кіраўнікі, у тым ліку і Пятро Машэраў, з якім у маёй сям'і былі нядрэнныя адносіны. Бацька маёй хроснай маці Ніны — сяброўкі маёй мамы Зоі — быў у яго кіроўцам. Некалькі разоў першы сакратар КПБ, убачыўшы школьніц Ніну і Зою, загадваў свайму кіроўцу падвезці іх дадому на ўрадавай машыне. Цяпер такое, напэўна, уявіць немагчыма. Мой дзед Уладзімір Канстанцінавіч Дрозд, вярнуўшыся з Германіі, дзе служыў пасля вайны, доўгі час працаваў на гэтых дачах.

Пасля вайны, таксама вярнуўшыся з Германіі, куды яна была сагнаная разам з бацькам і братам, у Драздзы на працу прыехала і мая бабуля Марыя Канстанцінаўна. Продкі яе Сініцкія, Плышэўскія, Мохарт, былі беднай засцянковай шляхтай, побыт якой мала розніўся ад сялянскага. Большасць з іх пасля рэвалюцыі прайшлі праз тыя ж пакуты, што і Драздзы. Бязлітасныя часы раскідалі магілы маіх продкаў ад Архангельска на поўначы да Ташкента на поўдні, ад Свярдлоўска на ўсходзе да нямецкага горада Золінген на захадзе, дзе пахаваны загінулы за некалькі дзён да вызвалення амерыканцамі мой прадзед Канстанцін Сініцкі.

### Маленькая маральная перамога

У Драздах мае дзед і бабуля пазнаёміліся і ажаніліся. Тут нарадзіўся мой бацька. А ў 1973 нарадзіўся я. Праўда, я быў прапісаны ў мамы, якая жыла ў Вясялоўцы — за некалькі метраў ад новай рэзідэнцыі Лукашэнкі каля Камсамольскага возера, дзе жылі мае іншыя дзед і бабуля Дзмітрый Высоцкі і Яўгенія Маліноўская. Калі знеслі Вясялоўку, мы атрымалі кватэру ў Мінску, але бывалі ў Драздах, дзе яшчэ некалькі гадоў жыў мой дзед. Неўзабаве і іх «знеслі» і далі кватэры ў Мінску. У 1976 плацінай на рацэ Свіслач для тэхнічнага водазабеспячэння і воднага добраўпарадкавання Мінска тут было створана вадасховішча Драздзы.

Доўгі час на былых дачах Саўміна жылі замежныя паслы. І першы раз назва Драздзы прагрымела на ўвесь свет у 1998-м, калі адбыўся гучны дыпламатычны скандал з іх высяленнем. Тады свае рэзідэнцыі пакінулі аж 22 дыпламаты. Афіцыйна прычынай высялення Аляксандр Лукашэнка і міністр замежных спраў Іван Антановіч назвалі неабходнасць тэрміновых рамонтных прац. Паслам нават пагражалі «затапленнем будынкаў каналізацыйным брудам».

Лукашэнка абвясціў комплекс Драздзы ўласнасцю ўрада Рэспублікі Беларусь і заявіў, што размяшчэнне падраздзялення марскіх пехацінцаў ЗША за 50 метраў ад яго асабістай рэзідэнцыі цалкам выключана. Пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард даў прэс-канферэнцыю і назваў гэта парушэннем Венскай канвенцыі, згодна з якой жытло дыпламатаў і тэрыторыя пасольстваў з'яўляюцца недатыкальнымі. Тэкст гэтага дакумента прыбіў да дзвярэй пакінутага катэджа літоўскі пасол.

У выніку Лукашэнка застаўся ў Драздах поўным гаспадаром і пасяліў побач з сабой самых верных прыслужнікаў. Цяпер гэтая рэзідэнцыя — адзін з самых ахоўваных аб'ектаў Беларусі, у чым лёгка пераканацца, прайшоўшы ўздоўж плота.

На жаль, у Беларусі няма законаў, якія дазваляюць хоць неяк аднавіць справядлівасць і вярнуць зямлю ці хаця б яе кошт былым гаспадарам ды іх нашчадкам. Некалькі гадоў я правёў у пошуку інфармацыі пра рэпрэсаваных продкаў, пісаў у розныя ведамствы і ў Маскву, і ў Архангельск. Урэшце, мне ўдалося атрымаць маленькую маральную перамогу. У канцы 2012 ІЦ УУС Мінаблвыканкама выдала мне даведку ў тым, што «рашэнне, вынесенае ў адміністрацыйным парадку ў 30-я гады ў дачыненні да сям'і Драздоў, адменена Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 чэрвеня 1991 года «Аб парадку рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсій 20—80 гадоў у Рэспубліцы Беларусь». Па гэтай справе Драздзы рэабілітаваныя 19 снежня 2012 года».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**КУП «Зялёнбуд» ва ўсіх раёнах Мінска пачало планавую абрэзку дрэў ад ссохлых галінак. Афіцыйна гэтыя мерапрыемствы называюць «кранíраваннем» дрэў. Эколагі і гарадскія актывісты пачынаюць пратэставаць у сацыяльных сетках з нагоды непрафесійнасці гэтай абрэзкі. На фота: пацярпелі і дрэвы на вуліцы Кульман у Мінску.**




ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**31 сакавіка прайшла акцыя ў падтрымку антыфашыстаў ля СІЗА па вуліцы Валадарскага. Хлопцы каля дзесяці хвілін трымалі расцяжку з надпісам «Свабоду беларускім антыфашыстам» і палілі каляровыя фаеры. Антыфашысты Ілля Валавік і Вадзім Бойка больш за два тыдні знаходзяцца ў зняволенні за справу двухгадовай даўніны.**



**У Вільні, у раёне Зарэчча (Ужупіс), з'явілася графіці з выявай Лявона Вольскага і яго жонкі Ганны, памерлай 23 сакавіка.**



**На таргі выстаўлены касцёл ва Уздзе, дзе хрысцілі бацьку Янкі Купалы. Уздзенскі раённы выканаўчы камітэт паспрабуе прадаць Крыжаўзвіжанскі касцёл ва Уздзе, пабудаваны яшчэ ў 1798 годзе расейскім генералам Казімірам Завішам. Агульная плошча памяшканняў без скляпоў — 534 квадратныя метры. У будынку ёсць электрычнасць, ацяпленне, водаправод і каналізацыя. Пачатковы кошт лота — 259 438 410 рублёў, ці крыху менш за 13 тысяч даляраў.**



**Летась пілот «Макларэна», чэмпіён Формулы-1 Джэнсан Батан нечакана развёўся з фотамадэллю Джэсікай Мічыбата, хоць іх шлюб доўжыўся не больш за год. Цяпер у Батана новае каханне — 25-гадовая ўраджэнка Каліфорніі Брытні Уорд.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Чыноўнік выступае перад калектывам завода:

— Праз пяць гадоў мы будзем жыць як у Еўропе.

Пытанне з залы:

— А што ў іх здарыцца?

* * *

Звычайная размова ў пары пасля 20 гадоў сумеснага жыцця:

— Што шукаеш? — пытаецца жонка, не адрываючыся ад камп'ютара.

— Дык гэтую... як яе...

— Паглядзі там, — працягваючы глядзець у манітор.

— О, сапраўды!

* * *

– Пятрусь, а што гэта ты такі змрочны?

– Грошай няма...

– А ты не спрабаваў хаця б па 20 еўра ў месяц у заначку хаваць?

– Спрабаваў. Знаходжу.

* * *

Добра быць бабуляй: згубіла шкарпэтку — звязала новую.

* * *

Запіс у дзённіку: «Ваш сын адзіны, хто ўзяў у турпаход гарэлку. Дзякуй за сына!»

* * *

Кладуся спаць а 10-й вечара, бо я ўжо дарослы.

* * *

Пасля першакрасавіцкага жарту 14-гадовай дачкі «Віншую! Ты хутка станеш бабуляй!» маці спакойна заснула толькі ў наступным годзе...

* * *

1 красавіка казаў людзям праўду, а потым смяяўся і дадаваў: «З 1 красавіка!»

## «НН» сто гадоў з вамі

**Германавічы. Дзісненскі павет.** У нашым мястэчку ўсёй «інтэлігенцыі» — ксёндз, вучыцель, сядзелец ды ўраднік. А гандлю — чатыры крамы. Але ўсё ж такі мястэчка! А цяпер прарочаць, што Германавічы разрастуцца, а гэта дзеля таго, што завялі кожны тыдзень таргові дзень. Пакуль што ў торговы дзень у нас няшмат п'яных, часцю за тым, што ў нас сядзелец — вялікі фармаліст. І, трэба сказаць, чалавек сумленны, бо як манаполька зачынена, то і генералу гарэлкі не прададуць.

**«НН». №13.**

**Новая мінская мода.** У апошнія тыдні Мінск накрыла мода на палітычныя флэш-мобы, удзельнікі якіх каардынуюць сваё дзеянні праз інтэрнэт. Акцыі розныя: ад вулічных перформансаў да салідарнага галасавання на сайтах афіцыйных СМІ, і нават іх псавання.

**«НН». №13. 2006.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднолуленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6020. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 05.04.2016.
Замова №1296.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

